*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года №45 (731) 23 ЛІСТАПАДА 2005 г.

**16 лістапада споўнілася 100 гадоў з дня народзінаў**

## Яна Скрыгана



**СКРЫГАН** Ян (Іван Аляксеевіч; 16.11.1905, в. Труханавічы Капыльскага р-на Менскай вобл. — 18.9. 1992), бел. пісьменнік. Засл. работнік культуры Беларусі (1985). Вучыўся ў Слуцкім с.-г. тэхнікуме, БДУ (1928—32). У 1924—27 працаваў у слуцкай акруговай газ. «Вясковы будаўнік», заг. Нар. дома ў Расонах, у газ. «Чырвоная Полаччына», у 1933—36 у газ. «Літаратура і мастацтва». У 1936 рэпрэсаваны, высланы ў Кемераўскую вобл. У 1946 вызвалены, працаваў на прамысл. прадпрыемстве ў г. Фергана (1946—48), у Эстоніі (1948— 49). У 1949 зноў арыштаваны і высланы ў Сібір. Рэабілітаваны ў 1954. З 1955 працаваў у Дзярж. выд-ве Беларусі, з 1959 у час. «Полымя», у 1967—75 заг. рэдакцыі ў «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі». У 1975—85 адказны сакратар К-та па Дзярж. прэміях Беларусі ў галіне л-ры, мастацтва і архітэктуры. Літ. дзейнасць пачаў у 1924 з вершаў. Быў чл. літ. аб'яднанняў «Маладняк», «Літаратурна-мастацкая камуна». Першае апавяданне «Таіса» (1927). Аповесць «Затока ў бурах» (1929) — гіст. і псіхал. праўдзівы малюнак з жыцця бел. народа ў часы 1-й сусв. вайны і пазней. У зб. апавяданняў «Сустрэчы» (1935) «Алавяданні» (1956), «Наталя» (1957), «Няпрошаная сляза» (1958), «Скажы адно слова» (1961) тэма захавання і памнажэння духоўных набыткаў чалавека. Памяць як гал. сувязны гісторыі вызначае змест і сюжэтна-кампазіцыйны лад кніг «Свая аповесць» (1964) і «Кругі» (1969). У зб-ках маст.-дакумент. артыкулаў і мемуараў «Ранішнія росы» (1965), «Некалькі хвілін чужога жыцця» (1979) пастаці выдатных дзеячаў бел. л-ры, мастацтва і культуры. Сярод іншага пераклаў на бел. мову раман «Цусіма» А. Новікава-Прыбоя.

Дзярж. прэмія Беларусі 1976 за ўдзел у стварэнні Бел. Сав. Энцыклапедыі.

***А.Ф.Лысенка.***

## Да 75-годдзя Уладзіміра Караткевіча




**Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства "Белпошта" выпусціла маркаваны канверт да 75-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча.**

## Уладзіміру Караткевічу - 75




**КАРАТКЕВІЧ** Уладзімір Сямёнавіч (26.11.-1930, г. Орша Віцебскай вобл. — 25.7.1984), бел. пісьменнік. Скончыў Кіеўскі ун-т (1954), Вышэйшыя літ. (1960) і сцэнарныя (1962) курсы ў Маскве. Дэбютаваў вершамі ў 1951. Найбольшую прыхільнасць выяўляў да гіст. тэматыкі, плённа развіваў адраджэнцкія ідэі. Істотна ўзбагаціў бел. л-ру ў тэматычных і жанравастылявых адносінах. Як паэт раскрыўся арыгінальна і непаўторна зб-камі «Матчына душа» (1958), «Вячэрнія ветразі» (1960), «Мая Іліяда» (1969), «Быў. Ёсць. Буду»(1986).

У прозе ўзняў шырокія пласты нац. гісторыі, стварыў адметныя характары, раскрыў багаты духоўны свет герояў і звязаў іх асабісты лёс з лёсам Бацькаўшчыны. Лірыка-рамант. талент К.-празаіка раскрыўся ўжо ў першым зборніку апавяданняў «Блакіт і золата дня» (1961). Паэтызуючы гісторыю, уздымаў пытанні, актуальныя і для сённяшняга дня. У гіст.-дэтэктыўнай аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» (1964, аднайм. кінафільм 1979) праўдзіва адлюстроўваў тагачаснае грамадства з яго нац., культ. і гіст. адметнасцямі, сцвярджаў патрыят. ідэі, асуджаў рэнегацтва і зло. У сатыр.-гумарыстычнай аповесці «Цыганскі кароль» (1961) на прыкладзе цыганскага «каралеўства» 18 ст. закранаў важныя сац.-паліт. і нац. праблемы. У рамант. аповесці «Сівая легенда» (1961) праз карціны сял. паўстання на Магілёўшчыне асэнсоўваў лёс Бацькаўшчыны. У «Легендзе аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны» (нап. 1961, апубл. 1994) на грунце бел. рэчаіснасці 16 ст. ў гратэскавай форме паказаў барацьбу дабра са злом. З задуманай ім трылогіі пра паўстанне 1863—64 ажыццёўлены толькі раман «Каласы пад сярпом тваім» (1965) — шырокая панарама нар. жыцця бел. народа ў 19 ст. Па сутнасці гэты твор паклаў пачатак бел. гіст. раманістыцы. Адгалінаваннем рамана стала ап. «Зброя». У героіка-рамант. драме «Кастусь Каліноўскі» (нап. 1963, паст. 1978) паказаны складанасць і супярэчлівасць паўстання, створаны паўнакроўны вобраз Каліноўскага. Раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (1966, аднайм. кінафільм 1967) — філас. роздум аб прызначэнні чалавека. Гіст. аспект прысутнічае і ў творах пра сучаснасць: аповесцях «У снягах драмае вясна» (нап. 1957, апубл. 1989), «Чазенія» (1967), «Лісце каштанаў» (1973), рамане «Леаніды не вернуцца да Зямлі» («Нельга забыць», 1962; Літ. прэмія імя І. Мележа 1983), п'есах «Млын на Сініх Вірах» (паст. 1959), «Трошкі далей ад Месяца» (1959—60). У сац.-псіхал. і філас. рамане «Чорны замак Альшанскі» (1979—80; Дзярж. прэмія Беларусі імя Я. Коласа 1984; аднайм. кінафільм 1984) роздум пра непарыўную повязь часоў, а прыёмы дэтэктыўнага жанру выкарыстаны з мэтай глыбей зразумець сэнс людскога існавання. Думкай пра няскоранасць і неўміручасць народа прасякнуты п'еса «Званы Віцебска» драма «Калыска чатырох чараўніц», трагедыя «Маці ўрагану». Пачуццём любові да Беларусі, гіст. мысленнем напоўнены яго нарысы «Зямля пад белымі крыламі» (1977), «Тысячу стагоддзяў табе», (1974); «Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён», (1980).

Ён выступаў у абарону бел. мовы, культуры, помнікаў архітэктуры і прыроды. На яго творах вырасла беларускае адраджэння 90-х гадоў XX ст.

У Оршы і Віцебску К. пастаўлены помнікі, яго імем названы вуліцы, школа ў Оршы (у ёй літ. музей Караткевіча). У Менску на доме, дзе жыў апошнія гады, і ў Оршы на бацькоўскім доме — мемар. дошкі. У Оршы заснаваны музей У. Караткевіча.

***А. Л. Верабей.***

*(Пра У. Караткевіча чытайце на ст. 2-3.)*

# У векавечнай Бацькаўшчыне клёны Нячутна пачынаюць аблятаць...

*Дойлід. Майстра. Араты. Сейбіт. Глыбіннадумны... якімі толькі высокімі словамі-азначэннямі не ўшаноўваюць нястомнага руплiўца, працаўніка нашай літаратуры Уладзіміра Караткевіча.*

*Гадоў сорак збіраю ў сваю вярэньку водгаласы пра яго і ад супайчынных творцаў, і ад блізкіх-далёкіх суседзяў па планеце.*

*Фатаграфаваў "князя Уладзіміра" у Латвіі і Чэхіі, лавіў рэха ад яго клічу ў Львове і Гюэ (В'етнам)...*

*Мы не звыкліся будзённа ўзгадваць чыннасць Асобы. Найвышэйшыя песні моцных духам ахвярнікаў, будзіцеляў, званароў...*

*Ды вось асаблівая нагода – юбілей. Сёлета ва Уладзіміра, сына Сямёна іманіны пашанотныя, прыўкрасныя: 75-ы Дзень народзінаў. Таму і прапаную вам пачостку – згукі ад Караткевіча, пра Караткевіча – у атачэнні яго постаці, пры нязмерклым свячэнні яго пагляду з даўніх фотаздымкаў.*

*Гэта толькі крона "раняе золата пад ногі людзям". А спадчына Караткевіча не ліставейная, і калі спадае яе "жоўты сум", то – у нашыя сэрцы, уплятаецца ў нашыя думы. "Каб мы яе любілі й бераглі".*

*Караткевіча нельга забыць. Ніколі. З ім і будні дні – абудныя. Бо ён сам – векавечны!*

***Сяргей Панізьнік.***



*Уладзімір Караткевіч*

**Уладзімір Караткевіч**

**"НА БЕЛАРУСІ БОГ ЖЫВЕ"**

"На Беларусі Бог жыве", -
Так кажа мой просты народ.
Тую праўду сцвярджае раса ў траве
І адвечны зор карагод.
Тую праўду сцвярджае
Упартасць хваль,
І продкаў запавет,
І мовы залатая сталь,
І нашых дум сусвет.
Тую праўду сцвярджае
Ўсё зноў і зноў
Ўсім лёсам, -
Няхай спакваля, -
У хмарах дубоў,
У вясёлках агнёў
Купальская наша зямля.
І няхай давядзе мне
Іншая кроў,
Што брашу,
Як сабачы сын, -
А няма нідзе
Вярнейшых сяброў
І прыгажэйшых жанчын.
Гэта край раскрытых душ і дзвярэй.
Гэты край –
Твой дом і сабор...
Ў нас дваццаць з лішнім тысяч рэк,
Адзінаццаць тысяч азёр.
Нам ёсць што піць,
З падмосткаў ліць,

Чым палі свае акрапіць,
А як давядзе, то ёсць нам дзе
І ворага ўтапіць.
І тая памяць жыве не ў царкве,
А ў кожнай жыве галаве:
"На Беларусі Бог жыве..." –
І хай сабе жыве.
А калі ён шле на нас кару і гнеў, -
Ну што ж, – мы з ім свае:
Ў вяршыні самых гонкіх дрэў
Маланка з неба б'е.

У вяршыні маленькіх і ніцых дрэў
Маланка ніколі не б'е.

І пра тое кожны пяе салавей
Росным кветкам у роднай траве:
"На Беларусі Бог жыве", –
І няхай да веку жыве.

**НАША РОДНАЯ МОВА**

...Яна вечная, бо ўся яна як наш характар. Здаецца, кволая ад пяшчотнай мяккасці, яна раптам кідае наверх схаваную ад усіх жалезную мужнасць і сілу. І, як быццам дамогшыся свайго, б'е як перапёлка ў жытах – мякка, а за тры вярсты чуваць. "Эль" – як салодкае віно, "дзе" – як шкляной палачкай па крышталю, мяккае "с", як соннае ціканне сінічкі ў гняздзе. І побач "р", як гарошына ў свістку, і доўга, спявуча, адкрыта гучаць галосныя. А "г" прыдыхае так ласкава, як маці на лобік дзецку, каб перастаў сніць дрэнны сон.

Дык што ж лепей за цябе, мова мая, мова наша?! За цябе, даўняя, за цябе, вечна жывая, за цябе, неўміручая?!

***Уладзімір Караткевіч.***

У векавечнай бацькаўшчыне клёны
Нячутна пачынаюць аблятаць
На рыжую траву. На мох зялёны,
На веснiцы, на ціхі стаў, на гаць.
Зямля глядзіць азёрамі-вачыма
На ясны свет, што стыне у красе.
Як чыста. Бы свтло абшары вымыла,
Як ціха – быццa зніклі людзі ўсе.
Адвечная мая! У сцюдзёных росах,
Як летась, як мільёны год таму...
Ляцяць па ветры косы рыжай восені,
І кліча лісцяў жоўты сум зіму.
На вуснах стыне горкі смак рабіны,
Цалую іх, халодныя, як лёд.
О вы, што будзеце ісці з дзяўчынай
Пад тымі ж клёнамі праз сотню год.
Ці зразумееце, што мы кахалі,
Што зніклі так. Як знікнеце і вы,
Што векавечны толькі край. І далеч,
І жоўты ліст на зелені травы,
Што ў векавечнай бацькаўшчыне клёны
Тысячагоддзі будуць аблятаць
На рыжую траву, на мох зялёны,
На веснiцы, на ціхі стаў, на гаць,
Што нездарма яна з асінак рудых,
Калі ідзеш увосень па зямлі,
Раняе золата пад ногі людзям,
Каб мы яе любілі й бераглі.

***Уладзімір Караткевіч.***

*Валдзіс Руя.*

**ЦЫГАН У ТРАМВАІ**

Так, цыган я! Ну і што ж рабіць?
Іншым мне давеку не быці.

У сваяках са знаццю не хадзіці...
Бацька дзе? Не помню. Вецер свішча

І яр лясны, дзе вораг іх, панішчыў.
Маці – прыгажуню (як тут быць?)
Звёз сілком туды, дзе нам не жыці.

Піскуноў мурзатых гурт карміла
Наша бабця на апошнім жыллі...
Што цыган? Ён замкі з хмар будуе.
У кішэнях – жарты. А пайду, -
Як памру, - туды, дзе ўсе качуюць...

Што глядзіш, адпрасаваны слон –
Ні ў мяне сухотаў, ні каросты.
А смурод не ад мяне, бо ён
Прэ – аж ноздры людзям верне – проста
З пад хваста лісіцы ў нафталіне,
Што на шыі у тваёй жанчыны...

Не прашу "пазалаціць далонку,"
Шчасце абагні ды йдзі старонкай.
Ўсё адно найбольш яно варожыць
Бессаромным і ... без іскры божай.
Проста пацясніцеся. У трамваі
Я не "заяц". Месца ўсім хапае.
Божы свет адналькава належыць
Тым, каго пад ручкі пхнуць да ежы

Й нам, хто стомлена ідзе ля коняў...
Што багам кашэчыя праклёны?

***Пераклаў з латышскай У. Караткевіч.***

*Вельмі спакушае мяне пагаварыць пра мову Уладзіміра Караткевіч, робленую пад старажытную кніжнасць з такім імпэтам, што пад яе стыхію аддаецца нават лексіка сённяшняга дня.*

***Ян Сырыган.***

Апошні прыезд Уладзіміра Караткевіча ў Брэст адбыўся пасля яго 50-гадовага юбілею, хоць быў ён цяжка хворы. Самае вялікае, чаго я шкадую, дык што не захавалася ў інстытуце магнітафонных запісаў, якія рабіліся на вечары. Гэта было выдатнае выступленне Уладзіміра Караткевіча перад моладдзю – чалавека і пісьменніка, які падняў беларускую літаратуру, як гістарычную планку на новую ступень. Творы яго пайшлі па свеце, Беларусь цераз яго станавілася ўсё больш вядомай. Спадчына Караткевіча – гэта спадчына нацыянальная, якая будзе і надалей служыць патрыятычнаму выхаванню моладзі, а ў справе Адраджэння ніхто маладзі не можа замяніць.

***Уладзімір Калеснік.***

*.... Сам Караткевіч ненавідзеў тыранію і дэспатызм у любой праяве, пра што і казаў у каментарыі да "Ладдзі Роспачы": "Мяне цікавіла іншае: два тыпы дэспатызму – італьянскі (вытанчаны, з атрутай) і рускі. Які лепшы?" Ніякі, адказваем разам з пісьменнікам.*

***Пятро Васючэнка.***

Творы Уладзіміра Караткевіча выхоўваюць нашы пачуцці, упрыгожваюць думкі, вучаць любіць і берагчы чалавечнае ў чалавеку, паглыбляюць веды пра зямлю, на якой жывём, выклікаюць радасць мастацкага адкрыцця, абуджаюць, хвалююць, трывожаць фантазію і розум. Творчасць Уладзіміра Караткевіча – гэта сапраўдны летапіс духоўнага жыцця беларускага народа, напісаны шчыра і таленавіта. І ягоным творам наканавана доўгае жыццё.

***Анатоль Верабей.***

*Творчасць Уладзіміра Караткевіча, народжаная болем за родны край, пакутамі за яго гісторыю, народжаная ў крытычныя для беларушчыны гады, і ў наш час гучыць надзённа, і ў нашыя дні выклікае сардэчны боль, вярэдзіць сумленне, мацуе веру".*

***Серафім Андраюк.***

Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч быў, ёсць і будзе не толькі вялікім пісьменнікам, але і вялікім Чалавекам. Кожны раз, калі я яго ўспамінаю, пра яго думаю, ён чамусьці нагадвае мне Антуана дэ Сэнт-Экзюперы. Нагадвае не толькі фізічна, але і духоўна. Яго заўчасны сыход з жыцця – незаменная страта для беларускай літаратуры і культуры.

***Сямён Падокшын.***



*Крайні злева Ўладзімір Караткевіч*



*Сваю шляхетнасць Уладзімір Караткевіч заўсёды нёс з годнасцю. Гэта адчувалася нават, калі сядаў за пісьмовы стол – заўсёды апранаў свежую белую кашулю, часцей вышыванку, пісаў толькі на фінскай паперы-нулёўцы. Чорным атрамантам, кітайскаю самапіскаю з залатым пяром. Почырк у яго быў дробненькі, але вельмі чытэльны. З адной старонкі ягонага "макавага семя" атрымлівалася ледзь не тры старонкі машынапісу.*

***Алесь Гаўрон.***

Калі Дзюма казаў, што для яго гісторыя – цвік, на які ён вешае сваю карціну, то для Караткевіча гісторыя – сама душа твора і яго плоць.

***Сяргей Астраўцоў.***

*Караткевіч быў. Ён годна пражыў свае амаль 54 гады і пакінуў значны след у мастацкай гісторыі Беларусі.*

*Караткевіч ёсць. Яго творы нараджаюць усё больш і больш сапраўдных беларусаў.*

*Караткевіч будзе. Пройдзе не так шмат часу. І яго думкі заззяюць на небасхіле духоўнага жыцця сапраўды вольнай і незалежнай Беларусі. А дзеля гэтага ёсць "адзіна годны шлях: служыць айчыне да крывавага поту, не чакаючы ўзнагароды ад людзей і лёсу, проста таму, што інакшай нельга. Інакшай – сорам. І не апраўданне ганебнаму ўчынку ў тым, што "яны самі так хочуць". Сорам – самім так хацець.*

***Пятро Жаўняровіч.***

***Уладзімір КАРАТКЕВІЧ***

### САМАЯ ЦІКАВАЯ НАВУКА –ЖЫЦЦЁ

Ведаць – гэта адзінае вартае на зямлі. Пасільна ўмець – другое. А ведаць і ўмець – гэта і ёсць фундамент чалавека, якім ён, чалавек, павінен быць.

* * *

Пісанне ўжо само па сабе дзівацтва, нешта не зусім будзённае. А ў мяне, да таго, і ў штодзённым жыцці дзівацтваў хапае. Лічу, што без іх пісьменніка няма. Аб характары і тэмпераменце маім сведчаць лепей за ўсё маё жыццё і мае кнігі.

Фантазія неадлучная ад логікі, свайго фундамента. Інакш гэта – грушы на вярбе.

Марыць і даваць волю фантазіі – першае, што складае пісьменніка. Мастацкая інтуіцыя таксама.

* * *

Я не пісьменнік рамантычнага складу. Хто хоча, каб я яго паважаў – хай здасць гэта азначэнне, гэты ярлык у архіў. Я, можа, больш чым хто, авантурыст (хоць ніколі не шукаў у авантурах выгады), і жыццё падсоўвае мне і такіх людзей, і такія выпадкі, якія не назавеш штодзённымі.

* * *

Выхоўваць любоў да нацыянальнай культуры можна адным толькі спосабам: выхаваннем у чалавеку гордасці за свой народ і яго дзеянні ў гісторыі. І – у сучасным – працай, часам непасільнай, па асвеце моладзі, па абуджэнні ў ёй глыбокіх ведаў аб сваіх людзях і сваім краі. Калі ўсе будуць працаваць над гэтым на грані сваіх магчымасцей – грамадства здолее ўсё.

*(З адказаў на пытанні Таццяны Шамякінай.)*

*Уладзімір Караткевіч упарта не лічыў сябе рамантыкам. Па метаду. Можа быць (ужо пра стыль гэтага не скажаш). Але ж галоўнае – светабачанне, своеасаблівасць душэўнага жыцця, высакароднасць і ўзвышанасць ідэалу. Пастаяннае імкненне да новага. Да таямнічай бясконцасці і разнастайнасці, адмаўленне статычнасці паўсядзённага быцця!*

***Таццяна Шамякіна.***

Слова Уладзіміра Караткевіча ёмістае і глыбокае. Почырк – шчодры і размашыстыя, не скаваны павуціннем ідэалагічных догмаў. Сам Караткевіч – увасабленне нацыянальнага, беларускага. І разам з тым ён наўздзіў інтэрнацыянальны – у лепшым сэнсе гэтага слова. Тым і блізкі ўсім. Блізкі і дарагі, як можа быць блізкім і дарагім крэўны, родны, свой.

***Франц Сіўко.***

**Караткевіч і Бог**

Калі я пазнаёміўся з Валодзем, ён ужо быў вядомым празаікам. Я яго так і лічыў за гэтым ведамствам. Выпадкова і са здзіўленем даведаўся, што прымалі яго ў Саюз пісьменьнікаў як паэта. Прозу сваю ён мне дарыў, а да вершаў я спазніўся. Аднойчы ён прачытаў мне такія вершы:

*Край сагнуўся ў спіне,*
*Край байцца размовы.*
*Край згубіў сваю мову*
*І матчынай песні напеў.*
*Нельга верыць у бога,*
*Калі ён такое дазволіў.*
*Цяжка верыць у люд свой,*
*Калі ён такое сцярпеў.*

Чыталася гэта на пачатку 60-х. Агаломшаны. Спытаў: "Хто гэта напісаў?" – "Я, стары, я..." – "Як жа ж цябе ў Саюз прынялі?" – "Памыліліся. Цяпер шкадуюць, але позна". Даведаўся: Валодзя пісаў гэта ў дваццаць восем. Як тут не задацца пытаннем: ці можна палюбіць свой народ і сваю зямлю больш, чым паэт, які напісаў такія радкі?! Слова, створанае Богам, "паўстала" супраць самога Бога!... ён не пабаяўся самога Творцы, бо жыў паводле ягоных законаў. Ці ж яму было баяцца зямнога начальства!

Бясстрашнасць Караткевіча-чалавека не магла не стаць бясстрашнасцю Караткевіча-пісьменніка. А мог жа ён стаць поўным улюбёнцам улады. Не раз прапаноўвалася. Усё, што трэба было, - пасіўна прыняць і быць нейтральным. І – жыццё без берагоў (якраз пад ягоны характар!). Але – у іншай кампаніі. Ён свядома не падаў уладзе рукі і адным з нешматлікіх пісьменнікаў цалкам выканаў сваё наканаванне на зямлі: літаратура была для яго не толькі спосабам самавыяўлення і вобразнага мыслення і нават не споведдзю. Яна стала ягоным служэннем Беларусі.

***Навум Цыпіс.***

*Аднак празаік Караткевіч ці паэт – пакінем гэтае пытанне літаратуразнаўцам, яны больш ведаюць. Для нас, чытачоў, яно прынцыповага значэння не мае. Прынцыповае значэнне для нас мае ідэя, якую нясе нам сваёй творчасцю Уладзімір Караткевіч, і вось тут, у сваёй ідэйнай накіраванасці, і паэзія Караткевіча, і яго проза ўяўляюць сабою з'яву на дзіва цэласную. І ў вершах, і ў прозе Уладзімір Караткевіч – пасыльны службы часу, і ў вершах, і ў прозе ён нястомна шукае "времен связующую нить", каб зберагчы жыццё на зямлі, захаваць чалавечую душу ад духоўнай эрозіі, каб паразумець людзей, з'яднаць іх высокай мэтай добраўпарадкавання свету.*

***Вера Палтаран.***

### АКАФІСТ УЛАДЗІМІРУ

Ён нарадзіўся –
і зарабілася болей на адну зорку
ў сузор'і славутых імёнаў Беларушчыны.
Уладзімір Караткевіч прыйшоў,
каб сцвердзіць жывучасць і трываласць
духу беларускага.
Усеабдымнасць крывіцкага розуму.
Ён быў дойлідам,
які ўзводзіў светлы гмах,
цвярды мур для беларускай душы,
выгнанай з дому свайго чужынцамі.
Ён быў майстрам цяжкай
і няўдзячнай справы –
лучыў ланцуг часін парваных.
Шчырэй адзін за ўсіх.
Ён быў майстрам і чаляднікам
у сябе ж самога.
Бо памагатых не меў.
Небяспечнай была справа,
якой аддаваў гады свае беларускі геній.
Ён быў аратым,
які араў дзірван бяспамяцтва й знявагі,
крыўды й абразы.
Ён быў сейбітам,
які сеяў зерне любові да ўсяго роднага,
наскага, крывіцкага,
ён сеяў зерне думкі,
а такое зерне дае рунь надзеі.
Усявышнім пасланы быў нам Уладзімір,
сын Сямёнаў,
каб не забыліся, што мы беларусы,
што мы народ, варты ўвагі
сусветнага людства.

Гісторыю твораць асобы.
Уладзімір Караткевіч тварыў
нашую гісторыю.
Ён зрабіў свой вольны пераказ
аповесці старасвеччыны.
І пераказ гэты быў дакладны,
бо пераказаны сэрцам,
закаханым у беларускасць,
сэрцам аднаго з найлюбімейшых
сыноў Беларусі.
Зямны й даступны
ў штодзённым бытаванні,
Уладзімір Караткевіч быў недаступным
падчас размоў сваіх з вечнасцю,
калі адкрываліся яму вяршыні горныя
ісціны й сэнсу.
Ён падставіў сваё інтэлігенцкае плячо
пад непамерную ношку,
якую неслі Кастусь Каліноўскі
і Янка Купала.
І нёс, і не гнуўся.
Ён нёс свой крыж.
Ён нёс крыж і за нас.
Будзьма любіць Беларусь
і быць ёй адданымі,
як Уладзімір Караткевіч.
Каб вярнулася святло ў душы нашыя,
каб цемра ад нас адвярнулася.
На развітанне нястомны працаўнік.
як трохзор'е, як трохзярнцце,
абраніў трохслоўе:
Быў. Ёсць. Буду.
Гукнём жа ўслед глыбіннадумцу,
Гукнём яму ў вячніну:
Быў! Ёсць! Будзеш! Будзеш! Будзеш!

***Рыгор Барадулін.***



*Жэня Янішчыц, Уладзімір Караткевіч, Валянціна Коўтун, Мікола Маляўка (Гомель), Вацлаў Жадліцкі (Прага) з Іланай Барадулінай, Міхась Стральцоў, Мікола Прашковіч, Ала Сакалоўская, Сяргей Панізнік (10.V. 1968 г. у доме Караткевіча, Менск).*

*(Працяг у наступным нумары)*

## *У векавечнай Бацькаўшчыне клёны Нячутна пачынаюць аблятаць...*



№ 45 (731) 23 ЛІСТАПАДА 2005 г. Наша слова

Леанід Лыч

# Дзесяцігоддзе вялікіх нацыянальных стратаў

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Сучасная дзяржаўная палітыка, будучы адкрыта скіраванай на размыванне нацыянальнага патэнцыялу духоўнага жыцця беларускага народу, супярэчыць не толькі яго карэнным інтарэсам. Яна з'яўляецца траянскім канём і для славянскай супольнасці народаў у цэлым, паколькі мае вынікам збядненне яе культурнамоўнай разнастайнасці. І ў вышэйшай ступені недарэчна, што такую палітыку ў дачыненні да тытульнага народа Беларусі праводзяць дзяржаўныя мужы, якія займаюць высокія месцы ў розных грамадскіх падраздзяленнях славянскай супольнасці, ладзяць канферэнцыі, "круглыя сталы" па самых надзённых пытаннях яе жыццядзейнасці. Ці не лепш было б спачатку хоць збольшага навесці парадак у сваёй нацыянальнай гаспадарцы, а тады ўжо займацца агульнаславянскай справай, каб не пусціць яе пад адгон па беларускім варыянце?

Час усім нам дапяць, што пастаўленыя ў рускай мове на самым высокім прафесійным узроўні п'еса ці опера, класна выкананая на ёй самым шчырым паводле этнічнай прыкмеце беларусам эстрадная песня, напісаны раман ніколі не будуць успрынятыя, асабліва сусветнаю грамадскасцю, як здабытак беларускай нацыянальнай культуры. Як бы мы ўпарта ні імкнуліся развіваць на сваёй зямлі рускую культуру, якіх бы вяршыняў мы ні дасягнулі на гэтым шляху, яна ніколі не стане нацыянальным здабыткам, а будзе, як і ва ўсе папярэднія больш чым два стагоддзі, служыць толькі сродкам асіміляцыі беларускага народа. Таму ў дзяржаўным сектары культуры трэба ўсталяваць вельмі разумныя суадносіны паміж беларускай і рускай культурамі, добра памятаючы, што візітнай карткай нашай краіны ў духоўную цывілізацыю свету можа служыць толькі пабудаваная на беларускай моўнай аснове культура, што толькі яна заслугоўвае насіць статус нацыянальнай, забяспечвае этнакультурную самабытнасць беларускага народа, уносіць уклад у культурную разнастайнасць планеты Зямля.

Выцясненне рускай культурай культуры беларускай на яе гістарычнай тэрыторыі сур'ёзна непакоіць многіх з тых пісьменнікаў, мастакоў, архітэктараў, артыстаў і інш., хто не адарваўся ад сваёй прыроднай духоўнай спадчыны і працуе над яе ўзбагачэннем. Але да іх клопату не прыслухоўваюцца ўладныя структуры, упарта тлумачачы асаблівасці культурнай сітуацыі на Беларусі векавечнай дружбай двух суседніх славянскіх народаў, не зважаючы аднак на тое, што гэтая ж дружба практычна ніяк не садзейнічае прысутнасці нашай культуры на тэрыторыі Расіі. Адказ тут можа быць толькі такі: франтальнае панаванне рускай культуры на тэрыторыі Беларусі ёсць вынік мэтанакіраванай - у далёкім мінулым і на сучасным этапе - дзяржаўнай палітыкі, а не жаданне саміх людзей, асабліва маладых пакаленняў. Апошнім часам назіраецца такое, што многія з іх яўную перавагу аддаюць сучаснай англаамерыканскай эстрадзе і нават самі стараюцца нешта зарабіць дзеля яе ўзбагачэння і прыжывання ў сваім родным доме. Стратную па ўсіх пазіцыях дзяржаўную палітыку ў галіне культуры можна растлумачыць толькі адным: нежаданнем уладных структур даць народу магчымасць жыць, развівацца на ўласным нацыянальным грунце, што, на іх думку, магло б затармазіць, стаць сур'ёзнай перашкодай да здзяйснення палітычнай інтэграцыі з Расіяй. І трэба аддаць належнае намаганням такіх структур: за апошняе дзесяцігоддзе яны не дазволілі прагрэсіўным колам грамадства стварыць нічога такога істотнага па ўзвядзенні беларускага нацыянальнага дома. Па-ранейшаму абсалютная бальшыня беларусаў жыве па-за сваім нацыянальна-культурным полем, абслугоўваецца духоўнымі каштоўнасцямі, мовай суседняй дзяржавы.

Адсутнасць прыстойнага нацыянальнага жыцця на Беларусі самым адмоўным чынам адбіваецца на яе лёсе. Перадавыя станы грамадства ўсё гэта разумеюць і імкнуцца неяк паправіць становішча. Таму і ў такіх неспрыяльных, антычалавечых нацыянальных умовах на нашай зямлі ёсць нямала людзей, гатовых начыста адкінуць навязаныя ім чужыя і жыць, тварыць паводле спрадвечна беларускіх Культурнамоўных стандартаў. Але такое прагрэсіўнае, заканамернае жаданне сустракае велізарны, неадольны супраціў з боку дзяржавы, і ў многіх апускаюцца рукі. Сустракаюцца і такія, што проста не выносяць глабальнага пагружэння краіны ў багну рускай культурнамоўнай асіміляцыі і стараюцца куды-небудзь з'ехаць, каб толькі не быць сведкамі гэтай этнічнай трагедыі. А з'язджаюць жа па гэтай прычыне не адкіды грамадства, а ў большасці выпадкаў здольныя да плённай творчай дзейнасці асобы.

Заганнасць дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры ў апошнія дзесяць гадоў у поўнай меры праяўляецца ў дзейнасці афіцыйнага тэлебачання. Нават у часы непадзельнага панавання камуністычнай ідэалогіі яно так не адрывалася ад беларускай нацыянальнай асновы, як гэта назіраецца сёння. Дзяржава ў сваім герастратаўскім змаганні з прыроднымі для нашай краіны культурай і мовай нават не збаялася ледзь не цалкам пазбавіць беларускамоўнага гледача нацыянальнага тэлебачання, замяніўшы яго рускамоўным. Да вельмі сумных вынікаў прыходзіш, калі пачынаеш параўноўваць афіцыйнае выключэнне беларускай мовы з дзяржаўнага тэлебачання з дазволам фашысцкіх уладаў у ваенныя гады выкарыстоўваць яе ў 15-хвілінных перадачах Гамбургскага радыё. Тэлебачанне - гэты пакуль што найноўшы ў свеце сродак масавай інфармацыі сёння куды лепш выкарыстоўваецца ў нацыянальных інтарэсах многіх афрыканскіх плямёнаў, чым у нашай краіне для яе тытульнага народа. З дапамогай тэлебачання на іх родных мовах вядзецца накіраванае на захаванне і развіццё адпаведнага мясцовым прыродным пачаткам духоўнага жыцця, на фармаванне нацыянальнай самасвядомасці, якая панесла шмат страт з-за працяглага панавання ў каланіяльных краінах чужой культуры і мовы. А вось дзяржаўнае тэлебачанне Рэспублікі Беларусь упарта не фармуе такой патрэбнай кожнаму народу каштоўнасці, як нацыянальная самасвядомасць. Да таго ж, маючы такі абмежаваны аб'ём чыстых, а не "трасянкавых" беларускамоўных перадач, тэлебачанне толькі садзейнічае ўзнікненню ў маладасведчанай у пытаннях філалогіі часткі насельніцтва памылковага меркавання пра адсутнасць у беларускай мовы дастатковага запасу слоў, каб належным чынам асвятляць важнейшыя падзеі ўнутранага і знадворнага жыцця.

Сучаснае бязрадаснае, прыгнечанае ў культурна-моўным плане становішча беларускага народа і нечуваная абыякавасць многіх да ажыццяўлення хаця б якіх-небудзь практычных крокаў для паляпшэння сітуацыі тлумачыцца амаль поўнай немагчымасцю публічна паведаць людзям усю праўду пра галоўных вінаватых у такой трагедыі, выказаць меркаванні пра шляхі выйсця з яе. Беларусь, як вядома з друку, у штогадовым рэйтынгу "Свабода слова - 2004" (ім ахоплена 193 краіны свету), праведзеным міжнароднай праваабарончай арганізацыяй "Freedom House", заняла 182-е месца. Вось тут і паспрабуй данесці грамадству, што робяць уладныя структуры Беларусі па дэмантажы нацыянальна-культурнага патэнцыялу яе тытульнага народа.

Калі б на Беларусі да ўлады прыйшлі сапраўдныя нацыянальныя патрыёты, яны ў першую ж чаргу паспрабавалі б пераўтварыць тэлебачанне са сродку русіфікацыі тытульнага народа ў магутны інструмент адбудовы і развіцця яго культуры на трывалым прыродным падмурку, чым забяспечылі б краіне аўтарытэт на сусветнай арэне, дапамаглі б пераадоленню трывала ўсталяванага скрозь погляду на беларусаў як на нейкае недасканалае, аморфнае адгалінаванне рускага этнасу.

За адсутнасць праўды ў сродках масавай інфармацыі народу даводзіцца плаціць надзвычай высокую цану, траціць грунт пад нагамі, звыкацца з чужымі стандартамі. Мне думаецца, што нават і не адарваная ад роднай глебы частка палітыкаў і інтэлігенцыі не разумее, што за апошняе дзесяцігоддзе нацыянальны пласт беларускай культуры зведаў такія сур'ёзныя разбурэнні, што сёння ён слабейшы, чым у апошнія гады існавання БССР. Тады ў нас выдавалася багата ў поўным сэнсе слова беларускіх газет накладам у досыць салідную лічбу. У значнай ступені ўлічваўся беларускі інтарэс на радыё і тэлебачанні. Калі сёння яны, асабліва апошняе, ёсць тыповы ідэалагічны сродак масавай русіфікацыі, дык за камуністычным часам тут адчувалася і беларуская прысутнасць. Два беларусы з вялікай літары старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні Генадзь Бураўкін і вядовец найцікавейшай тэлеперадачы "Роднае слова" Уладзімір Содаль рабілі для беларускай справы непараўнальна больш, чым сёння ўвесь калектыў гэтага магутнага ідэалагічнага апарату прэзідэнцкай вертыкалі. Тады нікому нават з шараговых работнікаў гэтага Камітэту не прыходзіла ў галаву злачынная, бязглуздая думка, што рускую мову трэба выкарыстоўваць для сур'ёзных праграм, разлічаных на шырокую аўдыторыю тэлегледачоў, а беларускую - для нейкіх другарадных перадач, вузкага кола людзей. Ці ж гэта не моўная дыскрымінацыя тытульнага народа краіны?!

Сцвярджаць пра значна большую дэфармацыю сучаснага нацыянальнага патэнцыялу духоўнага жыцця ў параўнанні з тым, якім ён быў за камуністамі, дазваляюць і тыя адмоўныя перамены, што за апошнія дзесяць гадоў адбыліся ў сельскай мясцовасці. На жаль, і яна не засталася ў баку ад дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. Да таго ж яшчэ дэмаграфічна вымірае, тоне ў алкагалізме. І гэта не дзіўна, калі грамадства не сувымярае свае дзеянні, паводзіны з нацыянальнай ідэяй, не бачыць перад сабой аніякай перспектывы. Многія суцяшаюць сябе абвешчанай дзяржаўнай праграмай адраджэння вёскі. Во парадокс: не было ні вайны, ні якіх-небудзь страшэнных прыродных катаклізмаў, а вёска так занепала, што дзяржаве трэба адраджаць яе??? Магчыма сякія-такія пазітыўныя зрухі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці і адбудуцца, але вярнуць вёсцы здольнасць быць этнічным асяродкам беларускага народа наўрад ці ўдасца. Няма адпаведных кадраў. Дзеля падняцця вёскі сюды прышлюць нямала арганізатараў сельскагаспадарчай вытворчасці, спецыялістаў аграрнага профілю. Але ж амаль усе яны належаць да носьбітаў рускіх культурна-моўных стандартаў, за што нам трэба ў першую чаргу дзякаваць сучаснай сістэме народнай адукацыі. Такія пасланцы не толькі не адновяць моцна занепалы і на вёсцы нацыянальны беларускі дух, а, наадварот, яшчэ больш знясіляць яго.

### Чужая нацыянальна-культурная стыхія ў войску.

Прэзідэнцкая вертыкаль супольна з вайсковым камандаваннем на выдатна справіліся ў апошняе дзесяцігоддзе з вывядзеннем з салдацкага жыцця тых беларускіх ваенна-гістарычных традыцый і культурнамоўных пачаткаў, якія пакрысе пачалі прышчапляцца тут на пачатку 90-х гадоў. Агульнапрызнана, што пасля народнай адукацыі, культуры, службовага справаводства, навукі больш ніякая іншая сфера не ў стане так пазітыўна паўплываць на прэстыжнасць роднай мовы, як армія. Вось чаму ўсе краіны, што не сімвалічна, а рэальна станавіліся на шлях нацыянальна-культурнага Адраджэння, не забываліся паклапаціцца пра ўвядзенне сваёй роднай мовы ў побыт салдата. Не забываліся пра яе і заснавальнікі нашай першай нацыянальнай дзяржавы XX стагоддзя - Беларускай Народнай Рэспублікі. Будаванне вайсковага жыцця на гістарычных, культурнамоўных традыцыях Беларусі яны лічылі самай першачарговай задачай. У выдадзеным Беларускай Вайсковай Камісіяй у 1920 годзе ў Менску "Падарунку Беларускаму Жаўнеру" так запісана: *"Ведай, што ты беларус і гавары паўсюдна на беларускай мове, таму што гэта твая родная мова, мова тваіх бацькоў і дзядоў. Хто саромеецца сваёй роднай мовы, той не сын свайго краю, той нявольнік у чужых і здраднік свайго народа. Твой край, народ і мова не горш іншых краін, народаў і моваў".* Зараз салдатам гавораць зусім іншае пра беларускую мову. Таму і не чуваць яе ў казармах, у час выступленняў салдацкіх самадзейных мастацкіх калектываў. Паводле ваенна-гістарычных традыцый, моўных стандартаў наша войска ніколькі не адрозніваецца ад расійскага і трэба думаць не будзе адрозніваецца да тае пары, пакуль нашага салдата будуць выхоўваць на сувораўскіх традыцыях (балазе існуе ж у нас Кобрынскі ваенна-гістарычны музей імя А.В.Суворава), пакуль маладых афіцэраў будуць рыхтаваць у Менскім сувораўскім вучылішчы. Такой краіны і ў Афрыцы не знойдзеш, дзе б армія будавалася паводле чужых стандартаў. "Суверэннай" Беларусі ўсё да твару. А ў перыяд жа міжваеннай беларусізацыі былі спробы - і даволі ўдалыя - па арганізацыі жыцця дыслакаваных у рэспубліцы вайсковых падраздзяленняў на беларускай нацыянальна-культурных традыцыях... Тады беларускае слова ўспрымалася салдатам, як сваё роднае.

*(Працяг у наступным нумары.)*

МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

вул. Калектарная, 10, 220004, г. Мінск
Тэл./факс: 200-86-87, 200-97-55
E-mail: kanc@minjust.by, minjust@mailgov.by

МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

ул. Коллекторная, 10, 220004, г. Минск
Тел./факс: 200-86-87, 200-97-55
E-mail: kanc@minjust.by, minjust@mailgov.by

09.11.2005 № 06-17/1210

На №

Грамадскім аб'яднанням

**Аб змяненнях заканадаўства.**

Міністэрства юстыцыі інфармуе, што 19 ліпеня 2005 г. прыняты Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях", які ўступіў у сілу 29 кастрычніка 2005 г.

Звяртаем ўвагу, што з моманту ўступлення ў сілу Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" у новай рэдакцыі (далей - Закон) згодна з арт. 20 Закона грамадскія аб'яднанні, іх саюзы (асацыяцыі) могуць здзяйсняць прадпрымальніцкую дзейнасць **толькі праз утварэнне камерцыйных арганізацый і (альбо) удзел у іх.**

Адначасова інфармуем, што ў адпаведнасці з арт. 24 Закона грамадскае аб'яднанне павінна не менш чым **за сем дзён** паведамляць рэгіструючаму органу аб пасяджэнні (скліканні) свайго вышэйшага органа, а таксама **у дзесяцідзённы тэрмін** пасля прыняцця рашэння аб змяненнях у складзе выбарных органаў прадстаўляць рэгіструючаму органу неабходныя звесткі.

Акрамя таго, частка шостая арт. 24 Закона ўтрымлівае пералік звестак, якія аб'яднанне павінна **штогод да 1 сакавіка** прадстаўляць у рэгіструючы орган.

Закон устанавіў **дадатковыя патрабаванні да зместу** статутаў грамадскіх аб'яднанняў. Так, статут грамадскага аб'яднання павінен разам з іншым таксама утрымліваць:

прадмет дзейнасці грамадскагааб'яднання;

назву, састаў, парадак выбрання, парадак і перыядычнасць склікання, тэрміны паўнамоцтваў органаў грамадскага аб'яднання і яго арганізацыйных структур, іх кампетэнцыю, парадак прыняцця і абскарджання рашэнняў органаў грамадскага аб'яднання і яго арганізацыйных структур;

межы распараджэння маёмасцю грамадскага аб'яднання яго арганізацыйнымі структурамі;

структуру аб'яднання, умовы і парадак стварэння і спынення дзейнасці яго арганізацыйных структур;

парадак уліку членаў грамадскага аб'яднання;

іншыя палажэнні.

Згодна з артыкулам 4 азначанага Закона грамадскім аб'яднанням, саюзам (асацыяцыям) грамадскіх аб'яднанняў, зарэгістраваным да ўступлення ў сілу Закона, **на працягу года з дня ўступлення ў сілу дадзенага Закона** неабходна забяспечыць прывядзенне сваіх устаноўчых дакументаў у адпаведнасць з Законам.

Для рэгістрацыі змяненняў і (альбо) дапаўненняў у статуце аб'яднання ў месячны тэрмін з дня прыняцця вышэйшым альбо кіруючым органам грамадскага аб'яднання рашэння аб іх унясенні (але не пазней жніўня 2006 г.) неабходна прадставіць у рэгіструючы орган:

заяву па ўстаноўленай форме аб дзяржаўнай рэгістрацыі змяненняў і (альбо) дапаўненняў у статуце аб'яднання, падпісаную не менш чым трыма членамі кіруючага органа аб'яднання;

пратакол пасяджэння органа, які ўнёс змяненні і (альбо) дапаўненні у статут аб'яднання;

арыгіналы статута і пасведчання аб рэгістрацыі аб'яднання;

статут аб'яднання з унесенымі ў яго змяненнямі і (альбо) дапаўненнямі (новая рэдакцыя) у двух экзэмплярах.

**Закон утрымлівае таксама шэраг іншых навакўвядзенняў.**

Паведамляецца ў парадку інфармацыі. Просім азнаёміцца з тэкстам Закона, калі гэта яшчэ не зроблена, і прыняць неабходныя меры па выкананню яго патрабаванняў.

**Начальнік упраўлення грамадскіх аб'яднанняў** **А.Л. Сліжэўскі.**

## Паседжанне Сакратарыяту ТБМ

*17 лістапада ў Менску прайшло паседжанне Сакратарыяту ТБМ, на якім ліст Міністэрства юстыцыі прыняты да выканання. Сакратарыят пастанавіў запатрабаваць ад усіх арганізацый ТБМ да Новага года прадставіць у Сакратарыят справаздачы аб сваёй дзейнасці за 2005 год.*

*Гэтае патрабаванне не тычыцца тых арганізацый, якія прадставілі справаздачы перад з'ездам, і чые справаздачы былі апублікаваныя.*

***Наш кар.***

# Кропля камень дзяўбе

Сёлета раённая рада ТБМ накіравала адкрыты ліст у мясцовы райвыканкам. У лісце звярталася ўвага высокага начальства на некаторыя хібы ў моўным афармленні крамаў, устаноў ды дарожных указальнікаў у горадзе і раёне.

Ліст не быў пакінуты па-за ўвагай, з крытыкай абаронцаў роднай мовы ўлады не толькі пагадзіліся, але і прынялі належныя меры. Першым адрэагавала кіраўніцтва райспажыўтаварыства. Зараз на крамах сярод розных "Барсаў", "Нікаў" і іншай замежнай экзотыкі з'явіліся шыльды з назвамі, якія лашчаць слых: "Ветразь", "Князёўна", "На ростанях" і інш. Дарэчы, падабраць назвы дапамагла "гандлярам" таксама наша рада.

Як прызнаваліся функцыянеры, яны настолькі прывыклі да рускамоўнага афармлення навакolля, што нават не задумваліся аб недарэчнасці гэтай з'явы.

Урэшце, нам не варта забываць, што і кропля камень дзяўбе, ды выкарыстоўваць усе магчымыя малыя формы працы дзеля дасягнення вялікай мэты - вяртання роднай мове належнага ёй статусу.

***А. Бубала, г. Верхнядзвінск.***

# Дзяды ў Лошыцы

Сябры Рады ГА ТБМ Ленінскага раёна пятага лістапада паміналі ахвяраў бальшавіцкага тэрору ў Лошыцы.

Да Крыжа быў ускладзены вянок, кветкі, павешан новы ручнік. Напярэдадні Дзядоў Крыж намалявалі, прыбралі вакол смецце, лісце, траву. Актыўны удзел у добраўпарадкаванні і маляванні Крыжа бралі: Барысаў Л., Атрашэнка С., Шутава В., Грузноў В., Галай А., Шыпуль Н., Бордак Ул. Прыбраная кватэра чакала сяброў пасля наведвання Крыжа.

Стаялі памінальныя стравы, гарэлі свечкі. За сталом згадалі добрым словам сваіх дзядоў, паразважалі пра мінулае і будучае, набраліся сілы дзеля далейшай беларускай справы, дзеля святой ідэі?

***Т. У. Грузнова.***

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўнае спадарства!

На мінулым тыдні ў паштовыя аддзяленні Беларусі паступіў Каталог падпіскі на газеты і часопісы Рэспублікі Беларусь, і пачалася падпіска. Газета "Наша слова" ў каталогу знаходзіцца на ст. 109. Кошт падпіскі на 1 месяц складае 1270 рублёў, на 3 месяцы - 3810 рублёў, на 6 месяцаў - 7620 рублёў. Гэта крышку больш, чым было, але гэты рост цаны выкліканы некаторым павышэннем паштовых тарыфаў.

Разам з тым, як нам падаецца, асноўная прычына невысокага ўзроўню падпіскі на нашую газету - не цана. Падпіска на нашую газету рэзка ўпала ў той перыяд, калі дзяржаўным установам (бібліятэкам, школам) было забаронена траціць бюджэтныя грошы на падпіску на недзяржаўныя выданні. У нас засталіся толькі індывідуальныя падпісчыкі. А трэба вяртацца ў бібліятэкі і школы. Гэта могуць зрабіць арганізацыі ТБМ. У большасці рэгіёнаў нармальна ўспрымуць такі клопат, таму на сёння гэты ўчастак працы самы важны і самы просты. 20 бібліятэк раёна - гэта менш за 80 тыс. руб., а падпіска бібліятэк заўсёды вяла да росту падпіскі індывідуальнай. Рост чытачоў - гэта рост нашых шэрагаў, а што важней?

РП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Колькасць камплектаў **1**

На 2006 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Каму

(прозвішча, ініцыялы)

Куды

(паштовы індэкс) (адрас)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Кошт: падпіскі 3810 руб.; пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2006 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Каму

(прозвішча, ініцыялы)

Куды

(адрас)

(паштовы індэкс)

# Юбілей маёй школы

У пасёлку Сцяпянка пад шатром гонкіх сосен месціцца сярэдняя школа № 183 г. Менска, былая Сцяпянская школа № 2. Гэта мая школа, і заўсёды цёплае пачуццё



*Школа ў Сцяпянцы*

апаноўвае мяне, калі я ўспамінаю ці бачу яе. Дваццаць дзевяць гадоў назад я, тады выпускніца філфака БДУ, прыйшла сюды настаўніцай беларускай мовы і літаратуры і на шаснаццаць гадоў патанула ў віры школьных падзей. Сёння мне прыемна, што мяне ведаюць і помняць і вучні, і іх бацькі, і мае калегі-настаўнікі. А нядаўна мая школа адзначыла юбілей—35 гадоў з дня заснавання.

Свой летапіс школа пачынае ад 1970 года. Гэта была ў Сцяпянцы другая адукацыйная ўстанова для дзяцей з Ліпак, з Геалогіі, а ў першую школу пачалі хадзіць дзеці вайскоўцаў. Першым дырэктарам стаў Пётр Ячэйка, які праз чатыры гады трагічна загінуў. Я толькі памятаю ўспаміны пра яго маіх калег-настаўнікаў.

У маёй школе працавалі і працуюць шэсць дырэктараў. Другім дырэктарам была ўладалюбівая, строгая, але вельмі душэўная Людміла Куркіна, выкладчык рускай мовы і літаратуры, якая намучылася, відаць, з такім маладым спецыялістам, як я, у якога энергія патрыятызму біла цераз край і захліствала нас абедзвюх у вір узаемаадносінаў. Толькі цяпер я зразумела, якія багатыя жыццёвыя універсітэты я праходзіла ў сцяпянскай школцы, і шчыра прабачаюся за свой гарачы імпэт.

З наступным дырэктарам, няўрымслівай і энергічнай Людмілай Карагінай, працавалася ўзнёсла і цікава, бо яна падкідвала нам усё новыя і новыя ідэі. А праз тры гады з дзесятак настаўнікаў, і я таксама, пайшлі з ёй ўзводзіць новую беларускую гімназію. Аказалася, што ў сціплай пасялковай школе працуюць вельмі добрыя прафесіяналы.

З дырэктарам Барысам Клімёнкам давялося папрацаваць толькі год, але я ў поўнай меры ацаніла разважлівасць і мудрасць гэтага шляхетнага чалавека, які аддаў школе адзінаццаць гадоў нялёгкай дырэктарскай працы. А вось пра Віктара Сіняўскага давялося чуць толькі ў добрых словах маіх суседзяў, маіх вучняў, якія аддалі ў школу ўжо сваіх дзетак. Цяперашняга ж дырэктара - Тацццяну Ганчлеўскую— мела прыемнасць бачыць на шматлікіх выбарах, бо тут я звычайна галасую. І яна прымала нас, як гаспадыня, на юбілейным свяце.

А юбілей удаўся і гасціннасцю, з якой нас сустракалі і ладзілі салодкія сталы, і увагай, і пашанай падчас урачыстага канцэрта, калі пра тых, хто працаваў у школе, прамаўляліся добрыя словы, даравяліся кветкі і падарункі. І так утульна і цёпла пачувалася ў зале, так прывычна ўспрымаліся выступы маіх калег—ветэранаў школы: легендарнага па сіле педагагічнага майстэрства Людвіга Сарокі, абаяльнай і строгай Ніны Буглай, непераўзыдзенай па любові да класічнай рускай літаратуры Лідзіі Анісімавай, майго кіраўніка, выдатнага прафесіянала ў рускай мове Галіны Ганчарык. Мне здалося, што я так тут і працую, што гэта мае вучні на сцэне танцуюць, якіх я вучыла танцаваць на агляд мастацкай самадзейнасці.

А на сцэне ў той час лёгка кружлялі танцоры з гурта "Сцяпяначка"—дыпламанта фестывалю "Сонечны птах",— якімі кіруе Наталля Ганчарова. Звонка гучалі песні ў выкананні Аляксандра Палякова, Антона Белахвостава, Дар'і Карнеевай, хора "Малышок", гуртоў "Куміры", "Натхненне". Калі ж на сцэну выйшлі з адмысловымі танцамі настаўнікі, якіх харэограф Наталля Ганчарова ўдала злучыла ў гурт "Калина красная", усе прынямелі. Так непрывычна бачыць настаўніка на сцэне, хаця мы таксама ў свой час пастаянна ездзілі на конкурсы мастацкай самадзейнасці, але перад сваімі вучнямі не выступалі.

Цудоўнае свята атрымалася! Я сустрэлася з маімі калегамі, якіх не бачыла ўжо працяглы час—слаўнай сяброўкай Валянцінай Анцулевіч, цудоўнай гаспадыняй і найлепшай бібліятэкаркай Алінай Ленскай, улюбёнымі ў малую дзятву настаўнікамі пачатковай школы Лідзіяй Аляксеенкай, Зінаідай Сарокай, настаўніцай спеваў Нінай Лявоненкай і іншымі маімі мілымі педагогамі, з якімі так



*Настаўнікі і выпускнікі школы розных пакаленняў.*



*Падчас юбілею, на пярэднім плане Людміла Дзіцэвіч.*

добра працавалася, адпачывалася. Я радавалася сустрэчы з маімі вучнямі, якія ўжо сталі самі настаўнікамі або проста дарослымі людзьмі: Таняй Кучыц, Галінай Пятровай, Ленай Сяргеевай, Наташай Касцюк, Таняй Зелянковай, Дзмітрыем Пратасевічам. Як помняцца тыя колішнія ўрокі, дзе мы адначасова былі адзін для аднаго і настаўнікамі і вучнямі. Як добра, што я выбрала гэтую прафесію, з якой і цяпер расстацца не магу, якая і цяпер жывіць мяне і акрыляе.

Я прайшлася па калідорах і класах: усюды чысціня, парадак, прыгажосць. Новая мэбля, еўрарамонт, сучасны дызайн. Адчуваецца гаспадарлівая рука дырэктара школы Тацццяны Уладзіміраўны, якая выбрала ціхую Сцяпянку для жыцця і працы. І я ўпэўненая, што маладая кіраўнічка не пашкадуе: тут ў лясной прыгажосці жывуць добрыя людзі сцяпянкаўцы, з якімі назаўсёды знітаванае маё сэрца.

*Людміла Дзіцэвіч.*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**96. СВЕТАЧ**
**(С. Полацкі)**

Былі вось такія руплівымі пчоламі
і ў час бяды.
Вучыў дыдаскал паміж дыму і полымя
люд малады.
Ужо паглынаў пад намі і сокі раллі
грозны вір.
А востраў адзін толькі і ратаваў на зямлі–
манастыр.
Увесь быў захоплены клічам світальным
званоў, абразоў.
Аб мовах старых,
Боскай мудрасці дбаў ён
Для юных галоў.
Засвоіў спаўна ўніяцкага слова разважны
агонь.
Тады ўжо міры́ў побач варагаваўшых
багоў.
Ён верыў у згоды людской, крыжам зліты
спакой.
І розум адзін ратаваў
памяркоўнай малітвай
сваёй.
Іначай глядзеў навакол яшчэ змалку
з усіх аднаго
Да глыбі прасякла паэтавай думкай
узнёслай яго.
Над Азіі духам, бязмежна свавольным,
рашуча паўстаў.
Хістаўся пясняр, назаўжды непатольны,
ад хваль характва.
А некалі і выхаванцы яго
(пралілося з пяра)
Віталі пад рыфму маскоўскага госця –
цара.
Як быццам паднеслі, схіліўшыся ніцма,
абраз.
О, потым успомніць з пашанай
манарх одапісца
няраз.
Вярнуліся ляхі былою дарогай –
стаў час гарачэй.
Дык бегчы ён мусіў з радзімы далёка
ад грозных вачэй.
У скронях жа стукала, звала Айчыны
бліжэйшая кроў.
Цягнула даўно ўжо сэрца да слынных
Крамлёўскіх званоў.

* * *

Імкнуліся да сонца каласы
ад нівы ў гадзіну яе цьмяную.
Нямарна раптам з Белай знік Русі –
пачуўся для славян у белакаменнай.

Як нейкая вышэйшая рука
шчасліва адабрала ў лёсу чорнага.
Знайшла Масква паэта-мастака,
уважыла настаўніка-вучонага.

Імкліва дзьмулі ў ветразі вятры,
бо, як асобу самую жаданую,
прымалі Сімяёна пры двары –
цар бачыў чалавека ў ім дзяржаўнага.

Натхнёным светлым верылі вачам,
перад яго схіляліся задумамі,
хоць люты брэх і не перакрычаў
асатанелай пашчы авакумавай.

Разважнасці настойлівы спакой
асветныя напоўніў шчодра харамы.
Хацеў змякчыць навукаю такой
апрычныя зямлі суровай норавы.

Дастойныя няўрымслівых пастаў,
прыходзілі да веку справы новыя.
Сабе ж другой асветнік не жадаў-
дарыў юнацтву веды адмысловыя.

Запалам вуснаў, талентам пяра
падоўгу ён не раставаўся з вучнямі.
А хутка і атожылкі цара
былі ягонай мудрасці даручаны.

Засмучвалі народаў нелады.
Хаця у храмах бачыў рысы брацкія,
ды ад граху далей і ад бяды
хаваў свае вытокі уніяцкія.

Не ўстаць было у рост між берагоў,
яшчэ яно не снілася гадзінніку.
Занадта многа дзей і без таго
не даравалі ворагі "лацініку".

Палохаў іх ён дзёрзкасцю задум.
але ж прастора сціскавала вузкая.
Даводзіў слова Захада, вястун,
і розуму пасол да сэрца рускага.



# ШЛЯХ: ТВАРЫ, ДУМКІ, ГАЛАСЫ

С. Квіцень

Пра сонца думаў чалавек з вайны:
жыццё і міру ў вечным яго горане.
Аб роднай марыў з роспаччу зямлі-
хацеў правесці люд
над страшным полымем.



* * *

Сусвет з захапленнем прымаў,
жыццю ўсміхаўся ён ветла.
Праз вершы яго паглынаў
прасторы святло і паветра.

Зліваўся з вучоным святар,
і розум таму не пярэчыў,
што рыфмы чароўны ліхтар
да сутнаснай глыбіўся рэчы.

І быў падабенствам руля
яму, як і іншым еўропам,
дзе перад вачыма Зямля
круцілася калейдаскопам.

Ці справіцца з ёй аднаму?
Штурхаў блізкі розум лянівы.
З барочным запалам яму
расказваў пра розныя дзівы.

Як зоркі, набыўшы свой дом,
гараць Богу вечнай падзякай,
так "Рыфма яго легіён"
блішчэў свету ўсячынай ўсякай.

Пад вокам быў цэлы бедлам
раслінных, жывёльных стварэнняў.
І пераліваліся там
узоры каштоўных каменняў.

Хто знаў яркіх кропель рэзон?
З адной падыходзіў малітвай –
судзіў Божы свет хараством,
гармоніяй ладу і рытму.

Пытаў і сябе ён пасля –
што зробіш са словам аблудным?
Яго прыгажосці спаўна
у вершы знаў усемагутным.

Такім стала спрытным яно,
што літары нават дурылі.
Фігурнаю мовай ажно
радкі іншы раз гаварылі.

А ліра яго нездарма
лічылася бы рытуалам,
бо з кожнай падзеяй яна
ў царскай сям'і гасцявала.

Не цішыўся думкі агонь –
жывіла патрэба сучасся.
Аб розуме клопат яго
з найпершых галоў пачынаўся.

О, дай, малю Бога не раз,
дастойным вялікай быць мэты.
Трухлявы спрэс зеўрае час
правaламі ў памяці ведаў.

А клікаў жа слаўны цяжар...
Дык жыў – з галавой несціханай.
запоўненай мараю з мар –
наладзіць ланцуг разарваны:

- Не страцься, о слова, дарма,
узыйдзі да самой Ефрасінні.
Хай благаславіць вестуна
зрок доўгі ў цёмнай краіне.

І дасць вострай думцы разбег,
маланкаю па небасхілу.
Вось так бы ляцеў цэлы век.
Ці ёсць весялейшыя крылы?

* * *

Зноў ісціны чыннікаў
шлях наш вірлівы.
Адзін з суайчыннікаў
стаўся шчаслівым.

Не старціў святла
На крывавым адхоне.
Была праваслаўная
матухна – ўлоннем.

Апроч – наш стары
ён цяжар меў на шыі:
яднаў алтары,
галасы іх жывыя.

Ды кроў ашалелая
сталася выйсцем...
Краіна жа Белая
знікла кудысьці.

Але за пагрозамі
збройнай халеры
прыходзіла Розуму
слаўная эра,

замоўніца хворасцей,
думкі світанне.
Разважны насоўваўся
час скрыжавання.

Нібыта заклён,
кліч зямлі ў завіруху –
служыў Сімяён
пасярэдняму духу.

Пазнала сцяжына
найлепшую казку –
дамогля вышыняў
праз царскую ласку.

Так склалася доля.
Ў ёй свет дасканалы
манаршая воля
ўжо адчувала.

Хадзіў між сапраўдных
асілкаў улады.
За безліч астаніх
пашчасціла брату.

### 96. МОНСТР
### (К. Лышчынскі)

Былі з настроем ментары. А што ж –
Старанне выхаванцаў ладна цешыла.
Хапала здольных вучняў. І усё ж
Найболей спадзяваліся на лепшага.

О, гэтага піхне вучоны гарт
Патузацца з галовамі разумнымі!
Выкладчыка любога не на жарт
Уражваў моцна талентамі юнымі.

На розных мовах шпарыў і пісаў.
І першым эрудытам быў у класе.
Ды як зацяты кніжнік ён пасля
Калегам не аднойчы ўспамінаўся.

А апанент бянтэжыўся яго
Ад слоў дакладных і як бы адточаных.
Зайздросцілі: усё ў аднаго.
Няроўна дзесьці Богам наварочана.

Не зналі тут ніякіх белых плям –
І верылі Касцёла абаронцы,
Што будзе клопату ерэтыкам,
Як узмужнее гэты красамоўца.

Аднак жа сапсаваны быў жаніх –
З ім побач нейкі чорт даўно смуродзіў.
Бо думаў пра настаўнікаў сваіх:
Не, з гэтымі яму не па дарозе.

І с ловамі, і норавамі – усяк
Каварную падмешвалі атруту.
На добры век ад іх пазнаў юнак
І крывадушша тонкага, і бруду.

Далей з такімі ? Божа, барані!
Прадбачыў небяспечную засаду,
парваў ён хутка з гэтымі людзьмі
і з іхняй найадказнейшай пасадай.

Не прыняла душа чужы статут,
сумленне зваў хутчэй на дапамогу.
Увогуле пра лёс свой знаў прысуд –
чуў у сабе настаўніка ад Бога.

Асоба свету і радзімы сын,
убогіх ратаваў сярод пацёмкаў.
Вучыў дзяцей прыгонных у адным
калегіюме проста у маёнтку.

Праследавала і яго яна,
пякучая, унутраная сіла.
Такая справа добрая здаўна
прастору ў суайчынніку прасіла.

О, не маглі мінуць яе пячаць
яго здаровым сэнсам неабсяжным.
Лічыў ён натуральным – аддаваць,
аднойчы прагным розумам узяўшы.

Упарты варушыўся ў ім мазоль.
Меў клопатаў багата – быў характар!
За нораў найсумленнейшы суддзёй
суседская яго абрала шляхта.

Судзіў – не напускаў у вочы дым,
вядома, не заўжды дарылі ружы.
І тут паспеў паплечнікам былым
зноў насаліць па самыя аж вушы.

Усё нібыта ладзіў напаказ
і вогнішча вакол хадзіў па кругу...
Між тым не забывалі валацугу -
чакаў злавесны вораг зручны час.

* * *

Воўчай помсты падкрадваўся люты агонь,
брэсцкім монстрам назвалі ў Касцёле.
На самой жа дык справе злачынства яго
нараджалася толькі паволі.

Як у цемры навобмацак і наўздагад
працягнулася бунту дарога.
Жах адзін, дзе ўрэшце спыніўся, вар'ят –
замахнуўся сумненнем на Бога.

На паперы сваволіў ён думкай жывой –
сам сабе і настаўнік, і пастыр.
Гэта ў час небяспечны, нібы жарало,
у вірлівую ноч цемрашальства.

Разумеў – пад нагамі ўганяў востры клін,
што накінецца ворагаў плойма,
ды былая ваенная костка ў ім,
прымушала трымацца дастойна.

Неадольна пад самае гнала лязо
і шпурляла ў вір безразважна.
Бо балюча аб єтрыжні пыталіся зноў
палкі розум і нораў адважны.

Пачынаўся гарачкі адлік не з нуля –
з фаліянтаў учэпістай цвілі.
Непакоілі светачы думкі здаля,
падбухторвалі рызыку звілін.

Дзе блукала – страшыўся і сам – галава,
а было яго трызненне крэўным.
Увесь голас літоўскі ў ім бунтаваў
сваім гукам няпэўным.

Слаба ў краі віхлявыя ўладары
разумелі алтарныя путы.
Шляху не разбіралі тугія вятры –
раздарожжа заблытвала смута.

За паганца жа ісціны новай святло,
лепшы крыж не прымаліся строга.
Для ратая тутэйшага вечна было
неба перад зямлёю далёка.

А з ім разам і кожны ягоны кашчэй
не інакш – стаў з развагаю зліты.
І мацнейшай за рукі ніколі яшчэ
не здавалася тая малітва.

Не ўратуе, хоць што для яе і прасцей,
ад бясхлебіцы і ад пажараў.
І ў патыліцы іншы пачухваў часцей
без усякіх, аднак, каментараў.

* * *

Пэўна, свет Божы
такога не ведаў адвеку.
Не разумелі святошы,
як носіць зямля чалавека.

З гэткаю страшнаю нішай –
з якога ж ён сам сутарэння?
Хіба ж загад – Усявышні? –
патрэба жывога сумлення!

Што толькі ў звіліны кінуў –
і розуму аж не даецца!
Ёсць, значыць, побач такія –
вандруюць па свеце без сэрца.

Ды разважаў не з нары,
бачыў – людзі у змане:
ідала дзесьці знайшлі махляры
такога, як самі.

Ім кожны раз у душы, несціханыя,
маслілі вабна.
Спрытна, урэшце, знахарылі,
цэлілі трапна.

Ды аблягчалі нібыта гарбы –
Ці ж няўдалая помач?
Не, сапраўды ён бязбожнікам быў
Непадманутым побач.

Сталася зману сіло
праўдалюбцу нямілым.
Пэўна ж, другое святло
думкі запаланіла.

І без нябёс дужа не аслабеў,
а што натварылі -
гучныя дзеі яго за сябе
самі ўсім гаварылі.

Здаўся касцёльскаму страўніку
горкім і рэзкім –
ці вольнадумным настаўнікам,
ці абаронцам судзейскім.

Тайна гучалі званы
з літар доўгага веча.
Прапанаваў дзеля лепшай Зямлі
немагчымыя рэчы.

Брыў чорт куды, адзінокі
(увогуле, весткі скупыя).
Думаў аб людзях далёкіх,
а блізкія вось загубілі.

Быў сапраўды не абліччам,
а чыстай душою прыгожым.
Дык дапамог аднаму, як пазычыў
вялікія грошы.

Нават не думаў, што спрытна звядзе
хлус былыя рахункі –
Выкрадзе подла для Божых людзей
патаемныя думкі.

Не даравала шляхецтва Хрыста –
насмуродзіў жа, гіцаль!
Не заступілася – гэткім паўстаў
перад светам злачынцам!

Вось і наспелі аднойчы суровыя
монстру хаўтуры.
У езуіцкую, ўрэшце, судовую
трапіў віхуру.

А ёй-няважна чыю –
толькі суньце ў пашчу крамолу:
- О, як сагрэлі такую змяю
на грудзях у святога Касцёла?!

Парахавыя паперы бясследна
зніклі ўсе чыста.
Дык з пратаколу толькі і ведае
край пра злачынства.

І без таго, нават, і напаміну ўжо –
ці не замнога?
Толькі праславілі, лаянкай грымнуўшы
"ворага Бога".

Быў небяспечнейшым з ерэтыкоў –
д'ябла вучнем.
Мусіла стацца з ім з розных бакоў
вельмі няўзручна.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Архітэктура старажытнай Беларусі на паштовых марках

15 лістапада ў Лідзе адбылася гістарычная падзея, прынамсі для горада Ліды. Тут упершыню ў гісторыі горада адбылося спецгашэнне паштовай маркі, дакладней, блока з дзвюх паштовых марак. У новай серыі "Архітэктура старажытнай Беларусі" выйшла марка № 628 "Замак Вітаўта. Гродна. З гравюры XVI ст." наміналам 500 руб. і № 629 "Замак у Лідзе, XIV-XV стст. Рэканструкцыя." наміналам 1000 руб. Пры гэтым выданне "лідскай" маркі ажыццёўлена ў многім, дзякуючы ініцыятыве Таварыства беларускай мовы, старшыня якога Алег Трусаў звярнуўся да кіраўніцтва "Белпошты" з прапановай выдаць марку з выявою Лідскага замка. Блок выйшаў накладам 15 тысяч асобнікаў. Выява Лідскага замка на паштовай марцы - гэта пейзаж-рэканструкцыя, намалёваны менскім мастаком Віктарам Маркаўцом. Выява на марцы замка Вітаўта ў Гародні - рэпрадукцыя з гравюры 16 стагоддзя, выкананая гэтым жа мастаком. Друк афсетны, паўнаколерны, папера дыхтоўная. Памер марак у блоку 40х30,24 мм. Памер блока 113х73 мм. На марках прыменены элементы ахоўы. На дзень гашэння ў Ліду было дастаўлена 500 блокаў.

Першапачаткова спецгашэнне было спланавана ў Гародні, потым перапланавалі яго на Менск, але кіраўніцтва Лідскага гарвыканкаму, прыклаўшы адпаведныя намаганні здолела пераканаць "Белпошту" ў мэтазгоднасці правесці гашэнне ў Лідзе.



Ідзе гашэнне марак.



Выступаюць вучні Гімназіі № 1.



Канверт першага дня.



Блок "Архітэктура старажытнай Беларусі"

На 11 гадзін 15 лістапада ў будынку Лідскага паштамту "Ліда-11" па вул. Міцкевіча сабраліся калекцыянеры, філатэлісты, прадстаўнікі ўладных і грамадскіх арганізацый, сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і Лідскага тэлебачання.

Гашэнне праводзілася на канверце першага дня, створаным на тэму марак, а таксама па жаданні на паштоўках спецыяльным штампам, які дзейнічаў усяго 6 гадзін: з 11.00 да 17.00 15 лістапада, а 16 лістапада быў знішчаны. Масціка гашэння чорная.





Штамп.

Працэс гашэння быў аздоблены песнямі пра Ліду і мастацкім экскурсам у гісторыю Ліды і Лідскага замка, здзейсненым вучнямі лідскай Гімназіі № 1. Са словамі да прысутных з нагоды гашэння марак выступілі начальнік аддзела ідэалагічнай работы выканкаму І. Белуш і намеснік начальніка раённага вузла паштовай сувязі П. Сурконт.

Падзея адбылася, а 15 тысяч марак пайшлі па Беларусі і свеце, несучы выявы нашых замкаў.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# Беларусь адродзіцца вераю

Як проста, але дальнабачна і прароча сказана. Вось толькі калі і якой цаною, шляхам пакут і празрэння ці якім іншым, але, пэўна, нялёгкім... Толькі ўсё роўна для мяне гэтыя словы з кніжкі паэзіі Рыгора Барадуліна "Ксты" прыйшлі і сталі як светлае ранне новага дня пасля доўгай і цёмнай ночы на нашай спакутаванай зямлі... Яны прыйшлі як адкрыццё, на якое ў душы даўно цепліў надзею, якога чакаў, пра якое ведаў, але не мог так трапна і гранічна проста сказаць, як Барадулін.

Адродзіцца вераю... Пра гэта, па сутнасці, і для гэтага кніга волата і дзядзіча беларускай паэзіі. Ён гэта сцвярджае і даказвае кожным сваім радком, словам пра Бога і жыццедайную, выратавальную сілу веры, любові і спагады да бліжняга. Прыкладам таму яго ўласнае жыццё і адносіны да людзей, іх тварца Бога.

***Да пакаяннасці***
***сцежка цяжкая,***
***Ды са спагадай лёгка ісці.***
***Выказаць дзякуй***
***слова шукаю,***
***Тым і трымаюся***
***ў гэтым жыцці.***

Але асабістая вера ў Бога і служэнне яму ў аўтара кніжкі не замыкаюцца на самім сабе, а сягаюць далей, да людзей... Такім чынам, Рыгор Барадулін у "Кстах" паўстае не толькі, як вялікі паэт сучаснасці, але і як вялікі носьбіт веры ў Бога і яго дабратворную сілу, як прапаведнік Божага слова сярод людзей праз літаратуру, зямны сейбіт любові да Усявышняга і чалавекалюбства, гуманізму, дабрыні, справядлівасці. Як малітва гучаць яго словы: "Бога не трэба баяцца, Бога трэба любіць".

Падобных прыкладаў у нашай літаратуры ды і ўвогуле ў гісторыі амаль і няма. Калі Францішак Скарына пераклаў нам на беларускую мову Біблію, то Рыгор Барадулін перакладае, ці літаральна ўкладвае моваю паэзіі ў нашы сэрцы тое ж святое пісанне. Так, у вершы "Вешчае", узяўшы эпіграфам вытрымку з Дабравесця паводле святога Яна "Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам", ён піша:

***Словам прыходзіць да нас***
***Духатворца абавязкова.***
***Усявышні дае нам дазвол***
***Імкнуцца бачыць***
***і чуць Слова***
***Гэтак як бачыць***
***Яго небадол.***

Паэт не заклікае да веры наўпрост як святар. Багалюбства ў яго бачыцца не паказушна, не змушана, а праходзіць праз прызму вобраза:

***Стопчацца сцежка***
***ў гэтым жыцці.***
***Кладка спыные па рэчцы.***
***Бога здарожанага пусці***
***Ў хату душы пагрэцца.***

Звычайна мы ведаем як барадулінскі талент, быццам незацугляны конь у полі, літаральна гуляе ў мастацкай стыхіі слова, яму ўжо бывае нават і зацесна ў прывычным слове. Тады нараджаюцца свае ўласнатворныя словы. А ў выніку толькі ўзбагачаецца паэзія і беларуская лексіка. У гэтых адносінах паэзія зборніка "Ксты" не з'яўляецца выключэннем вышэйсказанага, хоць яго ўкладальнікі схільны аднесці яго да чыста духоўнай літаратуры. Але ж нідзе не сказана, што ў літаратуры такога кшталту не можа лагодзіць сэрца і душу чытага той жа згаданы імі "Сонцакрылы жаўранак кахання"...

Наадварот, як мне падаецца, тады і духоўнае слова хутчэй знаходзіць дарогу да сэрца... Як у яго першай Саламоновай песні:

***Памкні мяне,***
***пабежымо за табой.***
***Кароль павёў мяне***
***да сваіх харомаў.***
***Будзем радавацца і цешыцца***
***Сэрцаў нашых***
***салодкаму грому.***

Тое, што талент Барадуліна ад Бога нашага Усявышняга, было ўжо бачна нават з ранніх яго твораў. А з гадамі ён рос, буянеў і як спелы яблык засвяціўся на старонках ягоных кніг новай гранню — сваёй духоўнасцю, паэтычнаю ўдзякаю Богу за яго міласць, любоў і шчодрасць, пра што сведчыць і вось гэтая ягоная кніга "Ксты" з такімі пранікнёнымі і хвалюючымі цудоўнымі радкамі:

***Ойча спагадлівы,***
***Ойча суровы,***
***Калісь пачутым***
***быць сподзеў таю.***
***Покуль мяне***
***не зракаюцца словы,***
***Дзякаваць буду***
***за ўвагу тваю...***

Больш таго, "Ксты" - гэта не толькі ўдзячнасць Богу за ўсё, але і працягнутая брацкая рука аўтара да бліжняга, можна сказаць своеасаблівы выратавальны кій для тых, хто яшчэ не празрэў, а толькі хоча пазнаць ісціну і прыйсці да Бога. А дзеля такой высакароднай мэты, такога добрага хрысціянскага памкнення народнага паэта шматпакутнай Беларусі, ды калі яшчэ гаворка ідзе пра паэзію самай высокай пробы, яго імя вартае не толькі ўсенароднай чытацкай падзякі і ўхвалы, але і высокага звання Нобелеўскага лаўрэата.

Сапраўды Беларусь адродзіцца вераю... Толькі як гэта спраўдзіць, зрабіць явай? Тое залежыць ужо ад самых, усіх нас.

*Аляксей Дземідовіч, г. Гародня.*

# Лідскі замак прымае экскурсіі

Пасля правядзення ў Лідскім замку Міжнароднага рыцарскага турніру жыццё тут не заглохла, надварот замак пачаў жыць і функцыянаваць як турыстычны аб'ект. Пасля турніру тут быў наведзены парадак, і супрацоўнікі Лідскага гістарычна-мастацкага музея прыступілі да экскурсійнага абслугоўвання замка. Не так шмат чаго яшчэ можна паказаць у замку, але затое распавядаць можна без канца. Замку 683 гады. Каля яго сценаў прашумела ці не ўся гісторыя нашай краіны, ужо колькі разоў мянялася нават назва гэтай краіны, а ён усё стаіць.

На мінулым тыдні ля ўязной брамы замка прымацавана ахоўная тарча, на якой напісана "Гісторыка-культурная каштоўнасць замак XIУ ст. Прычыненне школы караецца па закону".




*Ахоўная тарча на Лідскім замку*



*У двары Лідскага замка утульна і надзейна*



*Экскурсію з групай навучэнцаў ПТВ-196 праводзіць старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея кандыдат геаграфічных навук Валеры Слівкін.*

Трэба спадзявацца, што замак ажыў не для таго, каб яшчэ 20 год дабудоўвацца. Хочацца верыць, што ён ажыў, каб да канца залячыць раны стагоддзяў і зазіхацець у поўнай сваёй прыгажосці ўжо ў самы бліжэйшы час.

*Наш кар.*

# Чырвонаму касцёлу - 95



**Сёлета касцёлу святых Сымона і Алены ў Менску - 95 гадоў.**

**Урачыстая імша з гэтай нагоды адбудзецца 21 лістапада ў 18.00.**

# Відэалетапіс па-беларуску

На Верхнядзвіншчыне нямала аматараў відэаздымкі. Сярод іх ёсць і сапраўдныя творцы, якія імкнуцца не проста зафіксаваць цікавыя для іх падзеі, але і глыбока асэнсаваць іх, падзяліцца здабыткамі сваёй творчасці з удумлівым гледачом. Менавіта з гэткімі аўтарамі супрацоўнічае наша арганізацыя ТБМ. Зараз ужо можна сказаць, што якраз тыя фільмы, дзе мы дапамагалі ў распрацоўцы і агучванні сцэнараў, атрымаліся найбольш удалымі.

Так, напрыклад, фільм аператара Уладзіміра Казлова, зняты да 60-годдзя вызвалення Беларусі, стаўся прыкметнай з'явай у грамадскім і культурным жыцці раёна. Яшчэ на стадыі абмеркавання яго праекту, у чым удзельнічалі прадстаўнікі ўладаў і грамадскасці, намі была высунута ідэя беларускамоўнага варыянту фільма. Прапанову прынялі амаль аднадушна. Нехта з ветэранаў, праўда, спрабаваў давесці, што вайна была "рускамоўнай", бо па-руску гаварылі камандзіры ды салдаты. Аднак з ім не пагадзіліся. На нашай зямлі і грукат змагання, і стогны пакут гучалі па-беларуску. Урэшце, стужка "Глянь, на якой зямлі стаіш!" была агучана на роднай мове. Успаміны і плач, песні і праклёны, апавед і зварот да нашчадкаў кладліся на сэрца як бацькоўскі запавет.

А нядаўна ў народным Клубе цікавых сустрэч адбылася прэзентацыя відэафільму Івана Жукоўскага "Пуцявінамі Асвейшчыны". Здымкі да фільму Іван Мікалаевіч пачаў з нагоды 500-гадовага юбілею Асвеі ў тых мясцінах, дзе родная мова ніколі не знікала і сёння цвіце ў першастворанай прыгажосці. Тубыльцы гаварылі і спявалі па-беларуску. Паэтычна агучаныя, па-беларуску "загаварылі" і прывольныя асвейскія краявіды. Гледачы стужкі адзначылі цудоўны эфект дасягнутай гармоніі.

*А. Бубала,*
*Верхнедзвінск.*

Беларуская мова-ТБМ-наша будучыня

### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Багданкевіч Святл. – 10000 р., г. Менск
2. Аксак Валянціна. – 10000 р., г. Менск
3. Федзюшын Ягор – 10000 р., г. Менск
4. Князева Часлава – 5000 р., г. Клецк
5. Мальдзіс Адам – 3000 р., г. Менск
6. Ілюкевіч Уладзімір – 4000 р., г. Менск
7. Петруковіч Васіль - 21000 р., г. Менск
8. Вяргей Валянціна – 20000 р., г. Менск
9. Чэчат Алесь – 10000 р., г. Менск
10. Гук Уладзімір – 20000 р., Пінскі р-н
11. Васільева Г.П. - 820 р., г. Менск

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

**Касір**

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

**Плацельшчык**

# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА - АКНО Ў СВЕТ

У наш камп'ютарызавана-прагматычны час культ кнігі ў свеце юнага сучасніка, нажаль, страчваецца, блякне, а літаратура рызыкуе стаць другараднай у пераліку школьных прадметаў. Школа вучыць знаходзіць і засвойваць інфармацыю. У гонцы за ведамі не застаецца часу для разважанняў. Сёння многія школьнікі чытаюць школьныя творы ў скарочаным, эмацыянальна-спрошчаным варыянце. На літаратуру ў школе адведзена ўсяго 1-2 гадзіны ў тыдзень!... З'явіліся новыя сродкі зносін, у першую чаргу Інтэрнэт. А асаблівасцю такога роду абмену думкамі і інфармацыяй з'яўляецца спрошчаная мова. Геніяльнае тварэнне чалавечага розуму выкарыстоўваецца для яго прымітывізацыі...

Відавочна, што эканоміць на літаратуры нельга. Літаратура фармуе найважнейшыя якасці праяўлення асобы - яснасць розуму, уменне аргументаваць, даваць суб'ектыўную ацэнку. І хіміка, і фізіка трэба выхоўваць на літаратуры! Літаратура - гэта крылы пакалення, "духоўная спіраль", па якой узнімаецца дзіцячая душа. Мастацкая літаратура - канал перадачы духоўнага досведу пакаленняў, унікальны сродак духоўна-маральнага, эмацыянальна-эстэтычнага развіцця асобы. Нажаль у чытанні падлеткаў літаратура, якая прымушае думаць, суперажываць, духоўна ачышчацца, выцясняецца дэтэктыўнай, бульварнай і нізкапробнай, з прымітыўнай мовай, сюжэтна-спрошчанай літаратурай.

Бібліятэкары могуць і павінны спрыяць стымуляцыі чытання ў падлеткавым асяроддзі, фармаванню чытацкіх густаў падлеткаў, папулярызацыі лепшай, высокаякаснай, узорнай - класічнай і сучаснай- літаратуры. Гэтай мэце прызначана **літаратурна-мастацкая выхаваўчая праграма для падлеткаў Бярэзінскай ЦБ "Мастацкая літаратура - акно ў свет".** Праграма зарыентавана на ўзроставыя псіха-эмацыянальныя асаблівасці падлеткавага ўспрыняцця, па-гэтаму базуецца не на традыцыйных - стэрэатыпных, кананічных формах, да якіх большасць юных сучаснікаў страціла цікавасць або ставіцца скептычна-іранічна. У аснову пакладзены лепшыя, **інавацыйныя формы, якія прайшлі выпрабаванне ў першы год "пілотнага" апрабоўвання праграмы** (2003/ 04 навуч. год). Кожная з практыкаваных форм мае свае цікавыя магчымасці.

Асэнсаванне эфектыўнасці **творчага сімбіёзу літаратуры і мастацтва,** спалучэння ўзорных прыёмаў моўна-літаратурнага і пачуццёва-эмацыянальнага, сцэнічна-тэатральнага трывала прапісала ў нашай практыцы такую форму прапаганды і рэкламы як **Тэатр кнігі - тэатр літаратурнай мініяцюры, тэатр маналогу, тэатр аднаго літаратурнага героя.** Такая форма стварае магчымасці эмацыянальна ўзбагаціць бібліятэчнае мерапрыемства, вывесці жывога "акцёра", стварыць яркі, запамінальны вобраз, а значыць, выклікаць у слухачоў моцныя пачуцці і думкі. Бібліятэчны тэатр - гэта не перайменне тэатра са стандартнай сцэнай і кулісамі, а імпрэза-імітацыя той атмасферы, якую стварае спалучэнне тэатральнага мастацтва і літаратуры. Гэта не мастацтва дэкарацый і акцёрскага майстэрства, а перш за ўсё - **мастацтва данясення літаратурнага слова праз тэатралізацыю.** Гэта зручная мабільная форма, бо тэатралізацыю здзяйсняе адзін "акцёр" і выкарыстоўваецца толькі самы неабходны рэквізіт і мінімум дэкарацый. Такая літаратурная паходня мае доступ і ў вучнёўскі клас, і на пасяджэнне літаратурна-інтэлектуальных прышкольных і бібліятэчных клубаў, і на агульнашкольныя сходы. Тэатралізацыя дае магчымасць раскрыць твор у вобразна-эмацыянальнай, пачуццёвай форме, дазваляе падлеткам убачыць кнігу праз прызму сцэнічнага майстэрства. Такое калектыўнае "прачытанне" твора - не дарэмная прагулка па старонках кнігі, а пазнанне новага, магчымасць углядзецца ў кнігу. Як у палігыцы адно трапнае слова ўплывае на масы больш, чым цэлая прамова, так і тэатралізацыя нават не ўсёй кнігі, а толькі асобных яе старонак, служыць найлепшай рэкламай каштоўнасці твора. Альфа і амега поспеху-выбар літаратурных твораў, надзённых, актуальных, цікавых для сучасніка.

Літаратурна-мастацкай першаасновай для дэбюту бібліятэчнага тэатра без кулісаў сталі кнігі арыгінальнага дакументальна-спавядальнага жанру Святланы Алексіевіч. Літаратурны прыём пісьменніцы падказаў і нам, папулярызатырам яе твораў, форму тэатралізацыі: **тэатр маналогу "Успаміны людзей - званы памяці".** Маналог-споведзь стаў асноўным сцэнічным прыёмам. Маналогі ад імя пісьменніцы і гераінь на фоне дэманстрацыі **пяці кніг С. Алексіевіч** атрымаліся настолькі пераканальнымі, што першыя гледачы і крытыкі - вучні СШ №2 звярнуліся да бібліятэкара-акцёра па аўтографы. Першы бібліятэчны літаратурна-тэатральны званок празвінеў даволі гучна і эфектна, форма тэатралізацыі стала цудоўным сродкам, які атрымаў паразуменне і адабрэнне школьнікаў і зрабіў рэкламу кніг цікавай і ўспрымальнай для няўрымслівага падлеткавага ўзросту. Вырашана было і надалей захоўваць літаратурна-мастацкую, тэатралізаваную аснову бібліятэчнай рэкламы кніг.

Формай эмацыянальна пашыранай прапаганды ідэйна-мастацкіх каштоўнасцяў **асобных літаратурных твораў стаў тэатр адной кнігі:** "Хрышчоныя блакадай" (паводле кн. А. Адамовіча і Д. Граніна "Блакадная кніга"), "У Перамогі - жаночы твар" (паводле кн. С. Алексіевіч "У вайны не жаночы твар" і ўспамінаў бярэзінскіх жанчын-сведак ваенных падзей). Падлеткам была адрасавана і **серыя тэатралізаваных трыбун адкрытага ліста "Крык у паштовым канверце":** "Адрасат выбыў або Каханне, забітае Чарнобылем" - гісторыя кахання ў лістах, распаведаная жонкай пажарнага ЧАЭС Ул. Правіка Надзеяй (паводле кн. "Салдаты Чарнобылю"), "Не паўтарыце маіх памылак!" - публічнае ліст-пакаянне ўрача, які стаў ахвярай морфію (паводле апав. М. Булгакава "Морфій")-

**Тэатр літаратурных мініяцюр серыі "Пісьменнікі супраць шкодных звычак"** змяшчае **шок-эпізоды,** распавяданыя **ад імя літаратурнага героя** (напрыклад, героя кнігі Д. Дэфо "Прыгоды Рабінзона Круза" аб памылковасці "лячэння" ліхаманкі настойкай тытуню і рому; героя Л. Талстога "Юнацтва" аб шкоднасці першай зацяжкі і развянчанні вобліка "супер-мэна" з курыцельнай люлькай у зубах" верша-перасцеражэння -- А. Пушкіна "Красавице, которая нюхала габак" аб несумяшчальнасці вобліку жанчыны - сімвала прыгажосці з пахам тытуню; агента па рэкламе цыгарэт з рамана К. Баклі "Тут кураць" аб прызнанні вінаватасці рэкламістаў цыгарэт перад чалавецтвам, перад грамадствам).

Станоўча ўспрымаецца падлеткамі і такая форма літаратурнай рэкламы як **кніжныя хіт-парады** цыкла "Кніга расказвае, кніга падказвае" (напрыклад, пад рубрыкай **"Сцвярджае мудрых кніжак рад: курэнне смерць, а тытунь - яд!"** з чароўным ажыўленнем - **тэатралізацыяй старонак кн.** З. Бядулі "Сярэбраная табакерка", М. Лынькова "Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных сяброў", С. Міхалкова "Як мядзведзь люльку знайшоў", апавядання З. Бядулі "Мядзведзь", **дэманстрацыяй цацак-антыподаў** "Мішка з цукеркам", "Мішка з цыгарэтай", рэчаў **абсурду:** табакеркі-прыстанка Тытунёвай Смерці, макета цыгарэты-забойцы, літровай шклянкі з чорным дзёгцем - колькасці копаці, якая збіраецца ў лёгкіх курца за год, **картак антырэкламы** плакатнага фармату.

Тэатралізаваны маналог выкарыстоўваецца ў цыкле **літаратурных урокаў духоўнасці "Нестарэючая класіка":** споведзі матулі "Не выракайцеся сваіх бацькоў!" паводле апав. З. Бяду-лі "На Каляды к сыну" і "Жахі бацькоўскага праклятыя" паводле апав. І. Тургенева "Пракляцце", споведзі маладой дзяўчыны "Капялюш - прызнак інтэлігентнасці?!"(паводле апав. Я. Коласа "Адукацыя").

Элементы тэатралізацыі выкарыстоўваюцца ў бібліятэчных **анонс-рэкламах** (напрыклад, да кінаэкранізацыі рамана М. Чаргінца "Вам - заданне" падрыхтавана тэатралізаваная рэпрыза **"З кнігі - на кінаэкран"** з маналогам «Разлучило нас не время, разлучила нас война».

Тэатралізаваны прыём-імпрэза пакладзены ў аснову і такой бібліятэчнай навацыі як **сацыяльна-літаратурная рулетка.** Засваенне праўды жыцця падлеткамі праз гульню, тэатралізаванае кніжнае слова - самае запамінальнае і даходлівае. Літаратурным падмуркам сацыяльна-псіхалагічнай школы жыцця сталі самыя яркія мастацкія творы **цыкла "Імя свету - цень".** Сектары рулеткі спецыяльнымі сімваламі вызначаюць кола праблем сучаснага грамадства (п'янства, наркаманія, СНІД, гандаль людзьмі, падлеткавая агрэсія, праблемы бацькоў і дзяцей), і наглядна дэманструюць кнігі. Кручэннем рулеткі вызначаецца сектар-праблема, сацыяльны педагог прадстаўляе кароткую даведку "Праблема буйным планам", а бібліятэчны "акцёр" прапаноўвае тэатралізаваны маналог ад імя гераіні літаратурнага твора. Маналогі складаюцца паводле кніжных сюжэтаў і даводзяцца да слухачоў пранікнёна і эмацыянальна ад першай асобы. За аснову бярэцца праўдзівы літаратурна-мастацкі погляд на праблемы сучаснасці. Такім чынам праўда жыцця і мастацкае слова зліваюцца ў больш чым пераканаўчыя вобразы - споведзі ВІЧ-інфіцыраванай дзяўчыны, пакінутай каханым (А. Брава "Тапіць дзяўчынак тут дазволена"); секс-рабыні, дзяўчыны-заложніцы (У. Праўдзін "Нелюбімыя гінуць"); няшчаснай маці адзінага сына, які рашыўся на самагубства (С. Алексіевіч "Зачараваныя смерцю"); жонкі алкаголіка (В. Кадзетава "Ахвяры"); адзінокай жанчыны, маці дзіцяці-інваліда, безабароннай перад навалаччу дзялкоў наркабізнесу (Ю. Станкевіч "Любіць ноч - права пацукоў"); школьніц-ахвяр падлеткавай жорсткасці (В. Жалезнікаў "Пудзіла") і "моды на наркотыкі" (Я. Хвалей "Прынцэса з тусоўкі"); адзінокай пажылой жанчыны, забытай дзецьмі жыхаркі выміраючай вёсачкі ( А. Дўдараў "Вечар"). У традыцыйна падлеткавай азартна-гульнёвай форме, узмоцненай элементамі мона-тэатралізацыі, старшакласнікі недакучліва пазнаюць маштабы сацыяльных праблем, асэнсоўваюць сваю адказнасць за ўзаемаадносіны з навакольнымі. Гэта **папераджальна-прафілактычная літаратурна-выхаваўчая форма** для прадстаўнікоў самага праблемнага ўзросту ўжо атрымала станоўчую ацэнку як спецыялістаў сацыяльна-псіхалагічных служб раёна, так і саміх падлеткаў.

Элементы ўзбочных асацыяцый выкарыстоўваюцца пры правядзенні **імправізаваных літаратурна-рэчавых аўкцыёнаў "Прадмет - рэбус, прадмет - сімвал"** цыклу "Назвы кніг загаварылі". Тэму-праблему вызначае прадмет, які сімвалізуе назву літаратурнага твора, актуальнасць тэматыкі (напрыклад, табакерка - "візітка-рэбус" назвы твора У. Адоеўскага "Гарадок у табакерцы" як грозны сімвал таго, што за год ад курэння ў свеце гіне горад, прыкладна роўны Беразіно (13 тыс. жыхароў); бусел, выраблены з пачарнелага дрэва - візітка кн. В. Казько "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел" як грозны напамінак, што чорны бусел, занесены ў Чырвоную кнігу - папярэджанне людзям, асуджэнне за разлад паміж чалавекам і прыродай, які становіцца не толькі прычынай вынішчэння прыроды, але і разбурэння чалавечай душы).

**Музей-тэатр** - форма прапаганды, падказаная жыццём і бібліятэчнай практыкай. На Бярэзіншчыне няма раённага краязнаўчага музея, а музейная кампазіцыя з наглядным адлюстраваннем рэчава-побытавага свету мінуўшчыны, як вядома, прадстаўляе павышаную цікавасць для кожнага падлетка: зрокавае ўспрыняцце самае трывалае і хуткадзейснае. Дэбют музея-тэатра "Пракляцце вайне" адбыўся ў 2005 годзе да светлай даты Вялікай Перамогі і стаў **сінтэзам музейна-экспазіцыйнай і славесна-тэатральнай форм прапаганды** на тэму "Акупацыя: знак бяды". Спачатку падлеткам прапанавалася азнаёміцца з экспазіцыямі ў двухколеравых гамах: шэра-чорнай, жалобна-абвінавачвальнай "Ніколі не забудзем, ніколі не даруем!" і ў чырвоных-пераможных танах "Салют Перамогі", поўнай жыццёвай энергіі і пачуцця гордасці "Мы выстаялі, жыццё працягваецца!". Тэатралізацыя кніг стала эмацыянальным падмуркам, эфектным даважкам да прадстаўленых на экспазіцыі матэрыялаў. Класічна-літаратурную аснову маналогаў "Вайна страляла ў кожнага з нас" склалі творы: С. Алексіевіч "Апошнія сведкі", А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Календніка "Я з вогненнай вёскі", Я. Коласа "Лагер смерці", А. Адамовіча "Хатынская аповесць", А. Адамовіча і Д. Граніна "Блакадная кніга", В. Быкава "Альпійская балада", У. Ліпскага і Б. Чалага "Любі мяне пры ўсякай долі", М. Лынькова "Дзіцячы башмачок" і "Недапетая песня", В. Самахвалава "Волахаўскія кладкі" (час. "Палымя", 2004, № 9). Успаміны-маналогі гераінь, падрыхтаваныя паводле выбраных з мастацкіх твораў самых яркіх эпізодаў - асноўныя дзейныя асобы імправізаванага тэатра. У ходзе бібліятэчнай тэатралізацыі выкарыстоўваецца толькі самы неабходны рэквізіт, незвычайны ракурс, дэталь: паласатая роба і лагерная табурэтка, пранумераваная, як вязень канцлагера - метафара абязлічанага стану чалавека: людзі-вязні, як дровы, якія паляць у вялізных печах; дзіцячы башмачок у руках гаротнай маці, пустая насценная рамка, дзе мог бы размяшчацца партрэт шчаслівай сям'і - чорны сімвал асірацелых матуль і жонак і г.д. Відавочна, што ў выпадку тэатралізацыі кніг глядач суперажывае жыццёвым лёсам герояў, напэўна, у большай ступені, чым пры чытанні, выклікае цікавасць да страціўшых пазалоту "супер-тэмы" ваенных кніг. Сучаснае пакаленне, якое ўзрасло побач з камп'ютарам, так спасцігае веліч вычыну старэйшага пакалення.

У рабоце з падлеткамі важна вучыць іх успрымаць рэкламаваную кнігу не адасоблена, а ў ракурсе іншых твораў. Перакінуць масцік цікаўнасці ад адной кнігі - да другой, сходнай па тэматыцы, дазваляе такая практыкаваная бярэзінскімі бібліятэкарамі форма **як літаратурныя пераклічкі кніг-пабрацімаў цыклу "Кніга з кнігай пераклікаецца".** Выбіраюцца мастацкія творы сходнай тэматыкі, сходнага сюжэту, асноўнага жыццясвярджальнага выслоўя "У жыцці заўжды ёсць месца подзвігу". Абавязковы элемент — паралелі літаратурных сюжэтаў ці аўтабіяграфій пісьменнікаў, рубрыкі-сенсацыі "Чалавек - легенда", "Аўтары аб сваіх героях".

Падлеткам былі прапанаваны літаратурныя пераклічкі кніг: У. Ліпскага "Крутыя вёрсты", прысвеч. жанчыне-легендзе З. Тусналобавай-Марчанка і Б. Палявога "Аповесць пра сапраўднага чалавека", прысвеч. бязногаму лётчыку , Герою Савецкага Саюза А. Марэсеву; А.Маршала "Я ўмею скакаць праз лужыны" і М. Астроўскага "Як гартавалася сталь", прысвеч. мужнасці чалавека ў пераадоленні цяжкіх фізічных немачаў; В.Караленкі "Сляпы музыка" і Р. Кіплінга "Свет патух", М. Герчыка "Аддаеш назаўсёды" і С. Цітова "Усім смярцям назло", М. Воранава "Песня чорнага дразда" і У. Праўдзіна "Нелюбімыя гінуць" - літаратурныя сцвярджэнні; таго, што чалавек з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі можа знайсці сваё прызначэнне і несці карысць людзям.

# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА - АКНО Ў СВЕТ

Навучыць падлеткаў даваць свакю ацэнку ўчынкам іншых людзей, выпрацоўваць уменне аргументаваць сваю думку-меркаванне прызначана такая форма як літаратурныя суды. З поспехам прайшлі **ваенна-палявыя трыбуналы** ( па творах В. Быкава) "Пераможцаў не судзяць?!", "Мёртвым не баліць?!", "Ваеннае каханне - подзвіг?!", "Жанчына на вайне - гэта антыгуманна?!" на базе клуба "Адвакат" педгімназіі, **літаратурны суд** "Фашызм - злачынства перад дзяцінствам" па тв. В. Казько "Суд у Слабадзе" на базе школы-інтэрната.

Спецыяльны раздзел праграмы - **"На літаратурным Алімпе"** прадугледжвае навейшыя формы папулярызацыі лепшых мастацкіх твораў, пісьменнікаў - **аўкцыёны літаратурных** шэдэўраў "Выкупі кнігу рэкламай", імправізаваныя **гульні-выбары пісьменніцкага парламенту**, разлічаныя на папярэдняе самастойнае азнаямленне школьнікаў з творчасцю пісьменнікаў. Такія формы практыкуюцца для членаў літаратурна-інтэлектуальнага клуба СШ №3, гурта прыхільнікаў літаратуры СШ №2, гурта літаратурна-адораных навучэнцаў педгімназіі. Так, **аўкцыён літаратурных шэдэўраў** праводзіцца шляхам "выкупу" кнігі рэкламай - вызначэннем яе літаратурна-мастацкіх, ідэйна-маральных якасцяў, за што ўдзельнікам выдаюцца спецыяльныя жэтоны-"літы", якія даюць права іх уладальнікам на першачарговае прачытанне ў бібліятэцы кніг павышанага попыту і памятны сувенір. А творы, якія набіраюць найбольшую колькасць "літаў"-рэклам, такім чынам сцвярджаюць свой найбольшы попыт-рэйтынг. Праз форму літаратурных аўкцыёнаў былі складзены **рэйтынгавыя спісы папулярнасці** сярод школьнікаў твораў самых знакамітых пісьменнікаў з беларускага літаратурнага Алімпа, юбіляраў 2003 - 2004 года - С.Алексіевіча і В.Быкава. На ацэнцы школьнікамі літаратурнай і грамадскай дзейнасці беларускіх пісьменнікаў, значнасці іх уклада ў маральна-духоўнае асветніцтва сучаснікаў заснавана **імправізаваная гульня "Выбары ў пісьменніцкі парламент"**. Кнігалюбамі-актывістамі выпускаюцца агітулёткі "Дастойны кандыдат дастойнай літаратуры", афармляецца куток выбаршчыка, дзе прадстаўляюцца спісы кандыдатаў, творы пісьменнікаў. Перадвыбарная кампанія змяшчае 5-хвілінныя выступленні-агіткі "Галасуйце за нашага кандыдата!". Атмасфера "выбараў" такая захапляльная для падлеткаў-выбаршчыкаў, што стымулюе іх чытацкую актыўнасць. Удзельнікі выбараў маюць права не толькі апусціць у ўрну бюлетэнь, а і выступіць у абарону годнага кандыдата. Форма абароны любая: літаратурнае паведамленне, дэманстрацыя партрэта, мастацкае чытанне або тэатралізацыя ўрыўка з твора пісьменніка, малюнкі і іншыя, самаробкі, прысвечаныя героям кніг пісьменніка. Мерапрыемства далучае да ўдзелу вялікую колькасць чытачоў, носіць не толькі забаўляльны, але і адукацыйны характар. Дзеці ахвотна запаўняюць "бюлетэні", выбарчая камісія з ліку бібліятэкараў і настаўнікаў падлічвае галасы за кандыдатаў і ўрачыста апавяшчае прозвішчы самых годных літаратараў, абраных у сімвалічны "Пісьменніцкі парламент", прэзентуе партрэтную галерэю абранага парламенту.

**Цыкл трыбун цікавай інфармацыі "Малавядомае пра вядомых"** мае галоўнай мэтай азнаёміць падлеткаў з самымі цікавымі і павучальнымі фактамі з біяграфій літаратурных знакамітасцяў. Інфарміна "Аратарскія здольнасці пісьменнікаў" рассакрэціла цікавы факт з практыкі Уладзіміра Маякоўскага, які па прыкладу Дэмасфена вучыўся дэкламаваць вершы з каменчыкам за шчакой. Інфарміна "Ні дня без радка" раскрывала стыль працоўнай дысцыпліны і рэжыму знакамітасцяў: святое правіла Чэхава садзіцца за напісанне твораў толькі ў парадным касцюме; суцэльную нумерацыю кожнай скрынкі з паметкамі "проза", "вершы", "чыстая папера" у рабочым стале У. Караткевіча; выкарыстанне А.Франсам у якасці паперы старых пісьмаў, канвертаў, запрашальных білетаў, квітанцый; прыёмы стымуляцыі пісьменніцкай думкі Шылера, які пісаў, трымаючы ногі ў халоднай вадзе; Русо, які прымушаў сваю думку інтэнсіўней працаваць, стоячы на сонцы з непакрытай галавой; Бальзака, які за час напісання "Чалавечай трагедыі" выпіў 54 тыс. кубкаў кавы. Інфарміна "Рукапісы не гараць, а людзі..." даводзіла падлеткам павучальна-папераджальную інфармацыю з трагедыі жыцця пісьменнікаў-ахвяр алкагалізму Ю. Алешы, Э. По, С. Ясеніна. Малавядомыя факты з біяграфій беларускіх пісьменнікаў-франтавікоў змяшчала інфарміна цыкла "Лёс пісьменніка — люстэрка народнай трагедыі": "Жывыя сярод мёртвых" (В. Быкаў і Р. Няхай - у спісах загінуўшых), "Кляймо рабства" (Я. Брыль, А. Карпюк, М.Скрыпка, зведаўшыя немецкі палон), "Незагойныя раны франтавіка" (раненні пісьменнікаў-удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны). Інфарміна "Шчаслівы выпадак" - "Кніга выратавала" прэзентавала шчаслівыя выпадкі, калі жыццё салдата выратавала ад смертаноснай кулі схаваная на грудзях кніга А. Твардоўскага "Васіль Цёркін", калі кніга В. Каверына "Два капітаны", якую баец чытаў ля зямлянкі ў час налёту намецкіх самалётаў, зберагла яго ад смерці ў знішчанай нямецкай бомбай зямлянцы.

Такім чынам, заснаваная на нетрадыцыйных формах прапаганды і рэкламы літаратурна-мастацкая выхаваўчая праграма Бярэзінскай ЦБ "Мастацкая літаратура - акно ў свет" далучае юных бярэзінцаў да важнейшай кніжнай скарбонкі жыцця, вучыць іх шукаць на старонках мастацкіх твораў адказы на хвалюючыя іх жыццёва важныя пытанні, знаходзіць апору для сваіх светапоглядаў і "перакананняў якія толькі фармуюцца. Бібліятэкар можа і павінен стаць аўтарытэтным дарадчыкам і павадыром для дзяцей. Бібліятэчную праграму дыктуе само жыццё, бо будучае ёсць толькі ў той краіны, дзе ў пашане літаратура і культура.

***Круталевіч Тамара - загадчык аддзелу маркетынгу Бярэзінскай ЦБС.***

# Землякі - сібіракі

Добрыя весткі прывёз з сабою на зямлю матчыну сібірак Мікалай Мікалаевіч Сімакоў. З Асвеі, дзе жыве яговая матуля, ён выйшаў на кантакты з цікавымі для яго людзьмі. Сустрэчы з далёкім госцем парадавалі і ўзрушылі.

Напэўна, чытач ужо ведае, што ў Навасібірску створаны і дзейнічае арганізацыя ТБМ, Беларускі культурна-асветніцкі цэнтр у імя святой Еўфрасінні Полацкай. Дзейнасць гэтай арганізацыі ахоплівае навасібірскую вобласць і Алтайскі край і ўжо распасціраецца за межы гэтых рэгіёнаў, якія і так шматкроць перавышаюць па плошчы тэрыторыю ўсёй Беларусі.

Пад патранатам цэнтру ў Навасібірску пабудаваны храм у імя беларускай святой. Праведзены маштабныя Дні культуры Беларусі, створаны ўмовы для творчасці і аб'яднання беларускіх талентаў на сібірскай зямлі.

Сведчаннем таму – паэтычны зборнік "Мая Радзіма", выдадзены ў 2004 годзе ў Навасібірску.

Кніжка выдатна аформлена. Яе вокладка не толькі падпісана па-беларуску, але і аздоблена такімім знаёмымі нам фатаграфіямі-сімваламі: буслы над азёрнымі разлівамі, ручнік, пасцелены наўскрай жытнёвага поля, а на ім – жалейка ды палявыя кветкі. Усё гэта, відаць; дарагое не толькі нам. Мо нават, там, у далёкім Сібіру, яно яшчэ даражэй таму, хто даўно не бачыў Радзіму, а ці нават толькі чуў пра тую зямлю, на якой нарадзіліся ягоныя бацькі, і якая таму здаецца шчымліва-дарагой і прыгожай, як мроя-таямніца.

На ўкладках размешчаны каляровыя, добра тэхнічна выкананыя фатаграфіі, якія сведчаць, што аб'яднанне беларусаў Сібіру – гэта не нейкі штучны фантом, а жывая, дзейная і дружная арганізацыя.

У кніжцы надрукаваны творы чатырнаццаці аўтараў. Пра кожнага з іх пададзены аўтабіяграфічныя звесткі, ёсць партрэт. Сярод паэтаў – і тыя, хто не так даўно з Беларусі, напрыклад, студэнты. І тыя, хто пражыў тут дарослае жыццё, прыехаўшы ў 1960-х на асваенне багаццяў краю. Ёсць, нарэшце, і такія, хто ні разу не бачыў на вочы гае зямлі, адкуль прараслі карані іхняга роду і любоў да якой перадалася ад продкаў на генетычным узроўні.

Адпаведна гэтаму розныя характар, тэматыка і мова вершаў. Натуральна, што, жывучы далёка ад Беларусі, аўтары не ўяўляюць сабе аб'ектыўна ўсіх працэсаў, якія адбываюцца ў ёй. Свае звесткі аб радзіме ці прарадзіме яны чэрпаюць з таго, што даходзіць да іх, прасеянае праз расейскае афіцыйнае і грамадскае бачанне нашага жыцця, прасякнутае расейкім менталітэтам. Пра гэта гавораць і самі аўтары.

Шмат хто з іх трывожыцца аб разрыве расейска-беларускіх роднасных сувязяў, той-сёй кляйміць "белавежскіх нягоднікаў". Праўда, у большасці гэтае адчуванне дыскамфорту ад наяўнасці "дзвюх радзімаў" гучыць дапытліва-інтымна ("О, Родина. Скажы мне, где ты?"). Такому аўтару верыш, хочацца з ім пагаварыць пра самае дарагое, у нечым суцешыць, штосьці патлумачыць.

Што найбольш радуе – сярод чатырнаццаці аўтараў чацвёра пішуць па-беларуску. А яшчэ сярод іх – два нашы найблізкія землякі: Мікалай Сімакоў і Валянцін Бураў. Мікалай – асвяак, нарадзіўся ў 1950 годзе, у Сібіру з 16 гадоў. Геафізік, працуе ў Навасібірскім аддзяленні Расійскай Акадэміі Навук. Мае і тэалагічную адукацыю. На знешнасць - і сібірак, і беларус адначасова: з барадой. Светлавокі ды русы. Сяброўскі, мяккі душой – так і свіціцца. На радзіме быў уражаны нашай кнігай "Памяць", вырашыў перакласці яе на рускую мову, каб там прачыталі пра ягоную Асвейшчыну землякі. У вершах – пра дабрыню і зло, пра вайну і маці, пра радзіму і Боскае.

Валянцін – з Дрысы, з першага выпуску СШ № 2 (1955). Піша па-беларуску. Надзіва тонка адчувае паэтычнасць роднай мовы, амаль бездакорна валодае ёю, нашмат лепш, чым некаторыя нашы пісакі. "Тэхнар – вайсковец", ён майстра кароткай лірычнай формы. Вершы, змешчаныя ў зборніку – гэта цудоўныя замалёўкі-споведзі закаханай душы, якія хочацца запамінаць, паўтараць, спяваць, урэшце. Хай чытач мяркуе сам.

***А. Бубала, г. Верхнядзвінск.***

## *Валянцін Бураў*

**Пра аўтара.**

Нарадзіўся ў 1937 годзе ў г. Дрыса. Скончыў Менскую артылерыйска-мінамётную навучальную акадэмію, засвоіў ракетную тэхніку. Служыў на Байкануры. Рыхтаваў да палётаў касманаўтаў П. Клімука і У. Кавалёнка. Узнагароджаны ордэнам "За службу радзіме ў Узбросных сілах СССР" III ступені. Зараз жыве ў Навасібірску.

*У імя святой прападобнай Еўфрасінні Полацкай, заступніцы ўсіх беларусаў*

Святая, прападобная, жыві!
Я цуду спраў тваіх дзіўлюся,
І слёз любові я не сцерагуся.
Тут, на Сібірскае зямлі,
Заўжды я быў і буду беларусам.

* * *

Успамінаю летнюю пару:
Паўзмрок, чырвоныя півоні,
Салёны пацалунак на пероне.
Я, прагай стомлены, хачу
Адчуць ля сэрца цёплыя далоні.

* * *

Тайга, азёры, рэкі... Я адзін.
На малы час цябе пакінуў.
Расстанне доўгае, вось-вось загіну
Ў чаканні горкім, як палын.
Лічу не дні, а кожную хвіліну.

* * *

Багоў, багінь нямала ў людзей
На розны выпадак, на кожную прычыну,
І я знайшоў сабе сваю багіню...
Багіня шчасця і надзей –
Мая зямная, любая жанчына.

* * *

Дарэмна сумаваць, што час ідзе,
Што не збылося мар дзявочых
І што грызе самота ўдзень і ўночы...
Я супакойваю цябе,
Цалуючы заплаканыя вочы.

* * *

Пагаслі фарбы вечнае вясны.
Жыццё! Што робіш ты з каханай?
Бядою б'еш мяне неспадзявана.
Яе я песціў! Пеў!! А ты...
Дзьмухнуў смяротны вецер нечакана.

* * *

Абураны, я кляў цяжкі свой лёс:
Што шчасця мне дае не многа,
Што камяністая мая дарога...
Ды ён нарэшце мне прынёс
Святло кахання шчырага, зямнога.

* * *

Семнаццаць? Сорак? Семдзесят гадоў?
Які ж бывае ўзрост кахання,
Калі не блякнуць фарбы дзён спаткання?
За дзень такі аддаць гатоў
Усе, пражытыя без хвалявання.

* * *

Каханне – кубак, поўны да краёў.
Штодзень абое прыпадаем.
Са смагай п'ём і смагай напаўняем.
Што ў ім тваё, а што маё...
Ні ты, ні я ніколі не ўгадаем.

* * *

Збярэ плады шчаслівая рука
Увосень, ды ў скарбонку зложыць.
Вясною ў зямлю зноў паложыць...
І так цячэ жыцця рака
Спакойна, ды спакой мяне трывожыць.

* * *

Жыву, нібы штодзень іду ўгару.
Аб адпачынку, хлебе дбаю,
Працую, мару, енчу, сплю. Трываю...
Кахання першага пару
На хвалях-успамінах калыхаю.

* * *

Ці я зачараваны, ці я ў сне?
Вось тут, са мной мая багіня!
Ад полымя кахання, мабыць згіну.
Яна не прыгажуня, не.
Але чартоўскі мілая жанчына.

* * *

Я з Верхнядзвінска, братка-беларус,
Са Скепні, Лелікава ... свету.
Пачуйце, зразумейце маю мэту:
Заву ў Сібір, за наш абрус
Сабрацца на сяброўскую бяседу.

# Пасвячэнне ў студэнты



*Студэнты каменнага веку*

18 лістапада Лідскі педагагічны каледж святкаваў Дзень студэнта. Падарожжа на "машыне часу" закідвала студэнтаў педкаледжа ў самыя розныя эпохі, але ва ўсіх эпохах студэнты заставаліся студэнтамі, вясёлымі і бестурботнымі, ну, канешне, калі адкінуць такую турботу, як сесіі.



*Спявае старшыня суполкі ТБМ групы С-2, дэлегат IX з'езду ТБМ Маша Ісенава.*



*Гучыць сярэднявечная беларуская рэлігійная песня*

Свята высвеціла самыя розныя таленты лідскіх студэнтаў. Зусім відавочна, што праз колькі гадоў яны змогуць выкладаць не толькі сухія вучэбныя дысцыпліны, але і навучыць разумнenню прыгожага, змогуць адкрываць таленты ўжо ў сваіх вучнях.

*Наш. кар.*

# Багач у Лідскім педкаледжы



Нажаль апошні месяц восені не песціць нас добрым надвор'ем. Кожны дзень пачынаецца ў вільготнай імгле, праз якую не відаць сонца. Менавіта ў такія дні і існуе патрэба ў святочнай цеплыні і радасці. Сонечны настрой паспрабавалі стварыць у Лідскім педкаледжы навучэнцы групы Ш-2А. 15 лістапада імі было праведзена свята "Багач". Гэтае народнае свята праводзілі тады, калі ўраджай ужо быў сабраны, а падворкі рыхтаваліся да зімы.

На інсцэніроўцы свята гучалі беларускія песні, вясёлыя прыпеўкі. Баба (Васілеўская Іна) і Дзед (Пац Яўген) прымусілі зал падзяліцца з усімі прысутнымі прыказкамі і прымаўкамі. Хітрун-Дамавік (Утко Вікторыя) загадваў загадкі над якімі і папацець прыйшлося, і патыліцу пачухаць. Завіталі на свята і Багач з Багатухай (Янковіч Аляксандр і Грытко Ганна), зычылі ўсім здароўя і добрай долі. Дзяўчаткі-весялухі (Смаляк Ганна, Мінко Святлана і Урбановіч Марыя) пачаставалі гасцей, морквай, капустай: "Была б глеба тлуста, будзе і гурок і капуста!". Свята атрымалася сапраўднае, шчырае, нават настаўнікі нагамі прытупвалі і ў далоні пляскалі ад лішку ўражанняў. Вось і разагналі сум ды благі настрой!

Асобная падзяка музычнаму кіраўніку Анацку Валянціну Зыгмундавічу за аздабленне свята цудоўнай музыкай, Віленчык Вользе і Віпнарэўскай Ганне за пяшчотныя песні. Нельга не адзначыць і працу куратара групы Ш–2А Брусткінай Яўгеніі Анатольеўны: "Дзякуем за падтрымку!"

Сцэнар свята падрыхтавала навучэнка групы Ш-2А – Шчурко Кацярына.

*Наш кар.*

# УВАГА!

**Сустрэчы ў сядзібе ТБМ:**

**24 лістапада ў 18.00.** Л. Дзіцэвіч. Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне.

**6 снежня ў 18.00.** У. Арлоў. Гістарычныя ваколіцы. Вандроўкі ў прасторы і часе.

**6 снежня ў 19.30.** С. Кручкоў. Як стварыць суполку ТБМ.

**7 снежня ў 18.00.** В. Скарабагатаў. Гісторыя беларускай музыкі.

## ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ ПРЫНЯЛА Ў ДРУГІМ ЧЫТАННІ ПАПРАЎКІ Ў ЗАКОН "АБ МУЗЕЯХ І МУЗЕЙНЫМ ФОНДЗЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ"

16 лістапада Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу прыняла ў другім чытанні папраўкі ў закон "Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь".

Паводле слоў намесніка старшыні пастаяннай камісіі ніжняй палаты па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Наталлі Аўдзеевай, распрацоўка гэтага законапраекта абумоўлена неабходнасцю ліквідацыі прававых калізій і неадпаведнасцяў паміж ім, законам "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь" і іншымі нарматыўна-прававымі актамі.

У законапраекце вызначаны асноўныя кірункі дзяржаўнай палітыкі ў сферы музейнай справы, парадак стварэння і ліквідацыі музеяў, крыніцы іх фінансавання, асаблівасці прававога становішча і парадку дзейнасці некаторых відаў музеяў, шляхі камплектавання музейных фондаў, правы і абавязкі музеяў і іх наведвальнікаў, віды музейнай дзейнасці.

*Юры ПАЦЁМКІН, БелаПАН.*

## Я. Дзвізаў "Ладдзя роспачы"

## Да 75-годдзя У. Караткевіча

1. Л:е6 Ф:h5+ 2. Kpg8! ЫФ 3.Ф:d4 Ф:f5 4. Лg6+! ... - у, здаецца, пройгрышным становішчы белыя ў адчаі ахвяруюць ладдзю у самае пекла пад бой 3-х чорных фігур: караля і 2-х ферзяў - "ладдзя роспачы!":

4. ... Кр:g6 5. Ф:g7х;

4. ... Фf:g6 5. Фf4х;

4. ... Фh:g6, 5. Фh4х.

Тры маты з блакаваннем палёў каля чорнага караля двума чорнымі ферзямі.



**Выйгрыш.**

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 21. 11. 2005 г. у 11.30. Замова № 1963.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.